PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (2168) Год XLII Беласток 30 лістапада 1997 г. Цана 1 зл.



## Пажаданні

Беларусаў, якія зрабілі ў сваім жыцці кар'еру і засталіся навонкі беларусамі — вельмі няшмат. Паводле нас, у свеце толькі адна такая асоба — Уладзімір Пац з Кнышэвіч (Сакольшчына).

Уладзімір Пац ужо ў гудліва-бурлівых юнацкіх гадах праявіўся арганізатарскай працай на беларускім арэале ды знайшоў свой жыццёвы прытулак у медыяльным свеце — г.зн. свеце мас-медыяў. Голас ягоны ўжо колькі гадоў даходзіць да нас з Беларусі на хвалях радыё- і тэлеэфіру. Можна меркаваць, што выконваючы гэтую публічную функцыю ў Беларусі, пазбег ён арышту і астрогу выключна дзякуючы прыроджанай беларусам хітрасці. Бо як жа ж іначай пагадзіць народную прымаўку *ціхэ едзеш дальшэ будзеш* з прафесіяй журналіста ў Рэспубліцы Беларусь? Ехаць жа, Уладзіміру Пацу даводзіцца даволі няціха.

Бальшыня Пацаваў продкаў мела царскія імёны. Ён сам, будучы ахрышчаным Уладзімірам, на дзень свайго шлюбу падабраў невыпадковую дату — 7 лістапада 1997 г., круглую гадавіну Вялікага Кастрычніка. Абранкай Пацавага сэрца стала мянчанка з не менш гістарычным імем, чым Пацавы продкі — Таццяна (глядзіце здымак). Іхні шлюб і вясельныя бяседы разыграліся ў чатырохкутніку Сакolка — Гродна — Менск — Беласток, а працягваліся тры дні. Малады на вяселлі выступіў у царскай афіцэрскай форме (глядзіце здымак). У ёй жа бесперашкодна перасякаў дзяржаўную мяжу. Маладая мела не менш традыцыйную для вяселля вопратку.

З нагоды гэтай адзінай і непаўторнай у жыцці Таццяны і Уладзіміра падзеі жадаем маладой і закаханай пары (глядзіце здымак), каб іхняе супольнае жыццё працягвалася доўга і шчасліва. Жадаем таксама, каб лік сапраўдных у свеце беларусаў хутка павялічыўся за справай маладажонаў, якіх вы бачыце на здымку.

# Дзе падзеліся з Сакольшчыны беларусы?

Мікола Ваўранюк

**Паводле праведзенага ў 1897 годзе перапісу насельніцтва Расейскай імперыі, у Сакольскім уездзе налічвалася 83,8% беларусаў і быў гэта найбольшы паказчык па ўсёй тэрыторыі этнічнай Беларусі. У пачатку нашага стагоддзя выйшла адсюль цэлая плеяда нацыянальных дзеячаў. Ім, менавіта, была прысвечана навуковая канферэнцыя „Беларусы Сакольшчыны", сарганізаваная ў нядзелю 16 лістапада ў Сакольскім асяродку культуры Беларускім гістарычным таварыствам.**

Ураджэнцы Сакольшчыны складалі ядро дзеючага ў пачатку стагоддзя Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Адна з іх, Зоська Верас (сапраўднае прозвішча Людвіка Сівіцкая) успамінала, што ўсе яны былі каталікі і ўсе адзначаліся высокім узроўнем беларускай нацыянальнай свядомасці. Ідэю заснавання гуртка паддаў ксёндз Францішак Грынкевіч з Новага Двара, а найбольш актыўнымі яго сябрамі, апрача Зоські Верас, былі: Адам Бычкоўскі з маёнтка Талочкі, Адольф Знянюк з Сухаволі, Язэп Лявіцкі з хутара Горны Хлеўск, Вінцук Семяновіч і Янка Чарапук з Новага Двара, Антон Спявак з Хварасцянаў, Пранук Эйсмант з вёскі Пусцін(?).

Наколькі яны выпалі з нашай свядомасці, сведчыць лёс Уладыслава Чаржынскага са Старой Каменкі, чыё імя нават арганізатары прапусцілі і ў праграме канферэнцыі. Сёння ён амаль зусім забыты, а ў дваццатыя гады быў вядучым літаратурным крытыкам, сакратаром Інбелкульта, членам аргкамітэта па правядзенні першай навуковай канферэнцыі па нармалізацыі беларускай тэрміналогіі (1926 год). Засуджаны ў 1931 годзе па справе неіснуючага Саюза вызвалення Беларусі на выгнанне ў Казань, ніколі ўжо ў Беларусь не вярнуўся.

Не здзейсніў сваіх katараў пра вяртанне на родную ніву таксама Янка Чарапук-Змагар. У 1922 годзе выехаў ён з дыпламатычным пашпартам Беларускай Народнай Рэспублікі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, каб шукаць там падтрымку не прызнанай суседзямі беларускай дзяржаве. Усё жыццё прысвяціў арганізаванню беларускай дыяспары ў Амерыцы і фінансавай дапамозе нацыянальнаму руху на бацькаўшчыне. Ведаючы яго дабрачыннасць, пісаў яму нават Янка Купала з просьбай дапамагчы беларускаму студэнцтву ў Празе. Янка Чарапук памёр у 1957 годзе ў Чыкага і ўсім сваім жыццём апраўдаў мянушку „Змагар", якую яму маладому даў Іван Луцкевіч.

Натуральная смерць у сваім ложку, гэта для беларускіх дзеячаў першай паловы дваццатага стагоддзя небывалая раскоша. Не зведаў яе ні Уладыслаў Казлоўскі (псеўданім Казлоўшчык) з Залесся, ні доктар філасофіі з Малых Азяранаў Мікалай Чарнецкі. Першы — паэт, публіцыст, ідэолаг нацыянал-сацыялістычнага руху — быў застрэлены ў 1943 годзе ў Менску, у сваім кабінеце галоўнага рэдактара „Беларускай газеты". Другога — выпускніка Пражскага універсітэта і члена Беларускага камітэта ў Беластоку, які існаваў пры

[працяг ☞ 5]

## У нумары

Генрык Сянкевіч будзе ўмацоўваць польскасць сярод беларускіх дзяцей ✓ стар. 3

Беластоцкае тэлебачанне не хоча новых праграм на беларускай мове ✓ стар. 4

Ці ўзнікне Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква ✓ стар. 5

Польскія студэнты захапляюцца паэзіяй Віктара Шведа ✓ стар. 8

Яновіча чытаюць па-ітльянску, а музей будуюць па-беларуску ✓ стар. 9

Экуменізм па-беластоцку ✓ стар. 10

# Мы прачыталі

*Białostocka Prokuratura Rejonowa chce by Sejm pozbawił immunitetu posła SLD Piotra Gadzinowskiego, któremu zarzuca obrażanie uczuć religijnych i znieważanie związku zawodowego. Gadzinowski wraz z kolegami z tygodnika „Nie" nałożył na pomnik Solidarności w Białymstoku specjalnie uszyte majtki z napisem „Nie dla pornografii". Zdaniem posła Gadzinowskiego symbolizujący Polskę na pół pęknięty głaz, kojarzy się z tylną częścią ludzkiego ciała.*

*Polityka, nr 46*

* * *

*Jest takie miasto na skraju Puszczy Białowieskiej, w którym lewica i prawica oddzielnie obchodzą Święto Niepodległości. Lewicowa władza miejska w Hajnówce urządziła obchody pod rękę z władzą duchowną. Uroczystości rozpoczęły nabożeństwa w kościele katolickim i cerkwi prawosławnej. Z kościoła katolickiego ruszył pochód, który prowadziły poczty sztandarowe miejscowych szkół i orkiestra dęta zespołu szkół zawodowych. Zagrała patriotyczne standardy „Pierwszą Brygadę", „O mój rozmarynie" itd. Pod pomnikiem ksiądz nawoływał do odpowiedzialności za Ojczyznę. A prawosławny duchowny podkreślił, że w cerkwi każde nabożeństwo rozpoczyna się od modlitwy za pomyślność rządzących. Po czym cerkiewny chór odśpiewał Niepodległej Polsce „Mnohaja lieta".*

*Kurier Poranny, nr 264*

* * *

*Trudno jest zamknąć trumnę Lenina. Jelcyn chce go wyprowadzić z placu Czerwonego. Tylko dokąd i jak? Na samo westchnienie o takiej ekshumacji sieroty sowietyzmu ruszają do szturmu z okrzykiem „nie szargać świętości".*

*Gazeta Wyborcza, nr 260*

* * *

*Лідэр Беларускага жаночага руху „Адраджэнне Айчыны" аштрафавана на 30 мільёнаў рублёў. У віну ёй прадставілі тое, што будучы арганізатарам шэсця супраць галечы, голаду і холаду, якое адбылося ў Менску, яна дапусціла выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі — „Пагоні" і бел-чырвона-белых сцягоў.*

*Голас Радзімы, н-р 44*

Калі ж урэшце Беларусь вызваліцца ад сярпа і молата?!

* * *

*Насельніцтва Беларусі скарацілася за апошнія 8 месяцаў на 22,3 тыс. асобаў і склала на 1 кастрычніка 1997 г. 10.213,8 тыс. чалавек. Памерла на 30,5 тыс. больш чым нарадзілася. Натуральны прырост адзначаны толькі на Берасцейшчыне і Гарадзеншчыне. Самы высокі ўзровень смяротнасьці назіраецца ў Віцебскай і Менскай абласьцях.*

*Весткі і паведамленьні, н-р 368 (Нью Ёрк)*

Памірае наш народ, спадары бальшавікі!

* * *

*Вобраз Леніна ва ўсялякай творчасці быў самы ўзвышаны і яркі. Усенародная любоў і павага да правадыра адлюстраваная ў шматлікіх і разнастайных формах творчасці — казках, лірычных песнях, прымаўках, легендах.*

*Мы прыйшлі ў дзіцячы сад,*
*Бачым Леніна пагляд,*
*Добры дзень, дзядуля Ленін,*
*Прывітацца кожны рад.*

*У Беларусі апеты паэтамі абраз Маці Божае на доўгія гады трапіў пад цэнзуру. Яму на змену прыйшоў іншы галоўны абраз — вобраз Леніна.*

*Наша ніва, н-р 32*

* * *

*Gwałt i przemoc hula po wszystkich kanałach telewizji. W Polsacie facet przystawia drugiemu pistolet do głowy. W tym czasie w „Jedynce" kobieta namawia faceta, aby komuś obciął głowę, w „Dwójce" ktoś kogoś ładuje po ryju. Brutalność, chamstwo i zabijanie dla zabijania wypełnia treść filmów dla dorosłych i dla dzieci. Przemoc w telewizji wyzwala wyrachowanie, obojętność i egoizm. W tych antywzorcach nie ma poczucia winy, wyrzutów sumienia, litości dla ofiar. Człowiek przestaje być człowiekiem, staje się psychopatą.*

*Gazeta Wyborcza, nr 260*

* * *

*Stało się już tradycją, że premiera rządu po każdych wyborach poszukuje się w ostatniej chwili. Buzka wezwano do sprawowania władzy z plaży w Hiszpanii. Szamotanina związana z tworzeniem nowego gabinetu ma znaczenie nie tylko estetyczne. Przy okazji inauguracji pojawiły się głosy, że naszym wkładem w zjednoczoną Europę będą wysokie wartości moralne i duchowe. Polityka w Polsce nie jest jednak pięknym widowiskiem i w związku z tym ma niewielu entuzjastów, a wszyscy ponosimy duże koszty tego, że ministrowie zaczynają myśleć o tym co zrobią na swoich stanowiskach dopiero wtedy, gdy rozglądają się po swoich nowych gabinetach. Kierowanie państwem zaczyna być wówczas improwizacją.*

*Kurier Poranny, nr 264*

* * *

*Палякі на Беларусі ніколі не былі карэннымі жыхарамі. Паводле законаў Вялікага княства Літоўскага, усім іншаземцам (у тым ліку і палякам) забаранялася займаць у нас дзяржаўныя і царкоўныя пасады, купляць зямлю. Таму ў старажытныя часы міграцыі палякаў на Беларусь не было. У другой палове XVII стагоддзя пачалася паланізацыя шляхты. Пазней праз каталіцкі касцёл паланізацыя часткова закранула сялянства. Ксяндзы наўмысна прапаведавалі формулу: хто трымаецца польскай веры (каталіцкай) — той паляк. На Беларусі мясцовыя палякі, гэта ў абсалютнай большасці апалячаныя беларусы.*

*Весткі і паведамленьні, н-р 368*

На Беласточчыне вырас яшчэ іншы феномен — „праваслаўны паляк".

# З мінулага тыдня

**Міжнародны дзень талерантнасці** ўшаноўваецца па ініцыятыве ЮНЕСКО 16 лістапада. „Талерантнасць азначае, што ў кожнага ёсць свабодны выбар перакананняў і кожны адабрае факт, што іншыя карыстаюцца такой самай свабодай", — абвяшчае дэкларацыя ЮНЕСКО. „Маладыя павінны вучыцца вырашаць канфлікты мірнымі спосабамі, кіруючыся прынцыпам, што іншы — гэта адзін з нас", — лічыць **Фэдэрыка Маёр**, генеральны дырэктар ЮНЕСКО. Дзень талерантнасці быў устаноўлены 16 лістапада 1996 года. Сёлета перад сядзібай урада на мачтах луналі шэсць сцягоў — сімвал талерантнасці, а 77 згуртаваных у ЮНЕСКО польскіх школ арганізавалі свае ўласныя святкаванні.

**Указ** аб ушанаванні 200-годдзя з дня нараджэння **Адама Міцкевіча** падпісаў 11 лістапада г.г. прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка**. Зараз ствараецца аргкамітэт па падрыхтоўцы плана святкаванняў у 1998 годзе. З прэзідэнцкага фонду прызначана на гэтую мэту 35 млрд. рублёў. На гэтыя грошы будзе, між іншым, адбудаваны фальварак у Завоссі, дзе нарадзіўся польскі паэт, і праведзена міжнароднае свята паэзіі на Гарадзеншчыне.

**Раздробленыя арганізацыі беларусаў Літвы** ўвайшлі ў Рэспубліканскае згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый. Яго прэзідэнтам стаў вядомы дзеяч культуры, оперны спявак **Лявон Мурашка**. Беларускае згуртаванне правяло ўжо два святы нацыянальнай песні, а таксама выставу беларускіх мастакоў. Нядаўна адбылася новая падзея — у Салечнікім беларускім культурным асяродку адкрыты паліграфічны цэнтр. Тут будзе рэгулярна выпускацца беларуская газета „Наша старонка".

**Дэлегацыя** Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага на чале з архіепіскапам ген. **Савам** па запрашэнні праваслаўнага душпастырства ўзброеных сіл ЗША пабывала ў апошняй дэкадзе лістапада з візітам у Чыкага. Мэта візіту — азнаямленне з дасягненнямі і формамі душпастырскай працы ў амерыканскай арміі.

**Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь** ствараецца ў Беластоку. Старшыня аднайменнага пазаўрадавага згуртавання **Артур Смулка** лічыць, што гэтая ініцыятыва з'яўляецца формай сплаты польскай дэмакратыяй даўгу за дапамогу, якую яна атрымала з заходняй Еўропы ў васьмідзесятых гадах. „Калі цяпер беларуская дэмакратыя мае клопаты, мы павінны дапамагчы ёй", — сказаў А. Смулка. Стваральнікі Цэнтра плануюць арганізаваць семінары, дыскусіі, канферэнцыі, курсы для прадстаўнікоў грамадскіх і палітычных арганізацый Польшчы, Беларусі і іншых еўрапейскіх дзяржаў. Цэнтр будзе таксама весці выдавецкую дзейнасць.

**Сустрэча нацыянальных меншасцей** прыцягнула ў Пуньск прадстаўнікоў беларусаў, немцаў, расіян, татар, украінцаў, цыганоў, яўрэяў і літоўцаў, якія ўжо чацвёрты год арганізуюць гэтае мерапрыемства. Тэмай сёлетняга семінара былі пытанні доступу да мас-медыяў і іх уплыву на нацыянальную свядомасць.

**У заразную бальніцу ў Беластоку** трапілі хворыя на жаўтуху дзеці з Заблудава, дзіцячага дома ў Красным і Падставовай школы н-р 2 у Беластоку. Ваяводская санэпідэмстанцыя лічыць з магчымасцю росту колькасці захворванняў на гэтую заразную хваробу сярод дзяцей і ў сувязі з гэтым вядзе пастаянны санітарны нагляд за асветнымі ўстановамі.



# Весткі з Беларусі

**Неспакой думскай фракцыі**

Фракцыя расейскай Дзяржаўнай Думы „Наш дом — Расея" выступіла з заявай, у якой асудзіла арышт беларускімі органамі бяспекі міністра сельскай гаспадаркі Беларусі Васіля Лявонава і старшыні акцыянернага таварыства, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Старавойтава. У заяве выказаны неспакой з выпадку непашанавання канстытуцыйных правоў беларускіх грамадзян. „Мы з'яўляемся сведкамі новага наступу на правы чалавека ў Беларусі, — сцвярджаюць дэпутаты фракцыі „Наш дом — Расея". На іх думку, акцыя гэткага кшталту не адпавядае літары духу пагадненняў паміж Расеяй ды Беларуссю і міжнародным праваўым нормам.

**Змена лозунга**

Беларускі народны фронт вырашыў стварыць аналітычны цэнтр, які будзе інфармаваць і пераводзіць у даступныя людзям лозунгі ўсю сабраную інфармацыю. Па словах лідэра БНФ Лявона Баршчэўскага, стварэнню гэтага цэнтра гатовы дапамагчы і іншыя партыі. На базе цэнтра будзе праводзіцца прафесійная вучоба прапагандыстаў. „У Народнага фронту для гэтага дастаткова інтэлектуальных кадраў, — падкрэсліў Баршчэўскі. — Мы мяркуем у бліжэйшым часам мацней выкарыстоўваць патэнцыял вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, якія ўваходзяць у склад БНФ". Галоўным лозунгам фронту на асенне-зімовы перыяд будзе „Беларусь — наш дом" замест ранейшага „Рэжым у адстаўку".

**Палітычная ўцякачка**

Васемнаццацігадовая беларуская журналістка Аліна Бельская, запрошаная фінскім ПЭН-цэнтрам у Хельсінкі, папрасіла палітычнага прыстанішча ў Фінляндыі. Прычынай гэтаму, паводле яе, было тое, што Лукашэнка падвяргае рэпрэсіям моладзь і студэнтаў, каб здушыць дзейнасць апазіцыі. „Рэжым шукае мяне, — сказала Бельская. — Ордэр на мой арышт ужо выпісаны. У Маскве небяспечна таксама, бо Расея можа перадаць мяне беларускім уладам, якія беспадстаўна трымаюць у турме маіх сяброў з арганізацыі Маладога фронту Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча".

**Жаўнерскае супрацоўніцтва**

У Менску з двухдзённым візітам пабывала дэлегацыя ваеннага ведамства Польшчы на чале з дырэктарам дэпартамента Міжнароднай бяспекі Міністэрства нацыянальнай абароны палкоўнікам Марыянам Кавалеўскім. Мэта візіту — абмен думкамі па пытаннях прыняцця мер даверу і стварэння сістэмы бяспекі ў рэгіёне. Ваенныя абмеркавалі між сабою пытанні двухбаковага супрацоўніцтва, выканання дамоўленасцей у галіне раззбраення, удзел у праграме НАТО „Партнёрства дзеля міру", а таксама перспектывы стварэння ў цэнтральнай і ўсходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны.

**Польская кінапраграма**

Адкрыццё фотавыставы, прысвечанай вядомаму польскаму кінарэжысёру Кшыштафу Кясьлёўскаму стала своеасаблівай прэамбулай пачатку правядзення ў Менску Тыдня польскага кіно. Цырымонія адбылася ў Палацы культуры прафсаюзаў. У гэты ж дзень на суд беларускіх кінагледачоў была прапанавана карціна майстра „Кароткі фільм аб забойстве" — першая з пяці кінастужак, падрыхтаваных да паказу ў рамках польскай кінапраграмы „Паверх бар'ераў".

**Народны „Прамень"**

Званне народнага калектыву пацвердзіў хор польскай песні „Прамень" са Шчучына. Нядаўна самадзейныя артысты абнавілі канцэртную праграму, у якую ўвайшлі некалькі песень на польскай мове на словы Яна Чачота. У рэпертуары нямала таксама беларускіх, рускіх і ўкраінскіх песень.

**Кабельная сетка ТБ**

Сумеснаму прадпрыемству „Космас ТБ" споўнілася чатыры гады. На сённяшні дзень ягоныя магчымасці дазваляюць трансліраваць праграмы ўсім уладальнікам індывідуальных прыёмных прыстасаванняў. Што да калектыўнага падключэння, то з 1 студзеня 1998 г. першымі абанентамі кабельнай сеткі „Космас ТБ" стануць жыхары мікрараёна Паўднёвы Захад і Малінаўка, дзе практычна завершаны работы па яе праектаванні. Акрамя таго разглядаецца пытанне аб стварэнні дачных прадпрыемстваў у абласных гарадах рэспублікі.

# Польскі патрон і новая спартзала

— Каб патрон Генрык Сянкевіч умацоўваў польскасць у сэрцах вашых вучняў, — зачытала словы Барбары Ваховіч (публіцыст і спецыяліст па творчасці Сянкевіча, якая даслала ліст з пажаданнямі) дырэктар Падставовай школы н-р 6 у Гайнаўцы Ірэна Кулачэўская, адкрываючы ўрачыстае мерапрыемства.

**Гісторыя пабудовы школы**

Ідэя пабудовы новай падставовай школы ў Гайнаўцы ўзнікла яшчэ ў сямідзесятых гадах, але пачала здзяйсняцца толькі ў 1992 годзе, калі пачалася пабудова фундаментаў. І ўжо тады паўсталі прапановы, каб у новай школе зрабіць абавязковым навучанне беларускай мовы, па ўзору бельскай „тройкі", і перанесці сюды ахвотных вучняў з іншых школ. Апрача самаўрада і Кураторыі асветы пабудову школы фінансавала Міністэрства нацыянальнай адукацыі, па прычыне пражывання тут нацыянальнай меншасці. Мара аб абавязковым навучанні беларускай мовы закончылася толькі на планах і прапановах. Калі ў 1994 годзе вучні ўвайшлі ў новы будынак, навучанне роднай мовы стала добраахвотным.

**Школьнае свята**

10 кастрычніка 1997 года бурмістр горада Ядвіга Рудзінска-Патэюк зачытала пастанову Гарадской рады, якая прысвоіла школе імя Генрыка Сянкевіча, а дырэктар школы, прывітаўшы паважаных гасцей з Кураторыі, управы горада і іншых школ, выказала задавальненне з уваходу ў сям'ю „Sienkiewiczowskich szkół". Праваслаўны і каталіцкі святары пасвяцілі новаадкрытую гімнастычную залу, у якой адбывалася ўся ўрачыстасць. Усе хвалілі новую школу і прасторную прыгожую спартыўную залу. З нагоды Дня Камісіі нацыянальнай адукацыі настаўнікі падставовых школ атрымалі ўзнагароды бурмістра горада. Усё мерапрыемства адбывалася выключна на польскай мове і толькі ў час артыстычнай часткі вучні праспявалі адну песню на мове нацыянальнай меншасці, з якой выводзіцца большая частка дзяцей у спамянутай школе.

— Калі Генрык Сянкевіч будзе ўмацоўваць польскасць, хто ж паклапоціцца пра беларускасць гэтых вучняў? — паціхеньку заўважыў у час мерапрыемства адзін з прысутных гасцей. — Тут жа навучаюць беларускай мове.

Гайнаўская рэчаіснасць яўна паказвае, што польскасць і без дапамогі замацоўвацца паўсюдна, а беларускасць толькі ілюзорна.

**Аляксей Мароз**

# Капліца ў скансэне

У скансэне ў Белавежы, што пры вуліцы Застава, нядаўна паставілі крыж на новапабудаванай каплічцы. У прысутнасці гасцей з Беласточчыны і Варшавы айцы Лявонцій Тафілюк з Бельска, Міхал Негярэвіч з Гайнаўкі і Сяргей Корх з Белавежы пасвяцілі капліцу. Энтузіяст беларускай культуры Міхал Байко з сябрамі пачаў забяспечваць сцены будыніны ад атмасферных ападкаў.

**Уладзіслаў Завадскі**

*Фота аўтара*



# Канцэрты „Сакалятаў"

13 лістапада 1997 года два канцэрты ў Гайнаўцы даў Камерны маладзёжны хор Рыбінскай дзяржаўнай авіяцыйнай акадэміі „Сакаляты". Выступіў ён у II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання і ў саборы Святой Тройцы. Другі канцэрт меў дабрачынную мэту і вырučаныя грошы пайшлі на рамонт Дома міласэрнасці, які ствараецца ў Гайнаўцы. Хор затрымаўся па запрашэнні прыхаджан прыхода Святой Тройцы, якія здарожаным спевакам далі начлег і адпачынак. Хор „Сакаляты" вяртаўся з канцэртаў у Парыжы, дзе выступіў у Кансерваторыі Рахманінава і Кафедральным саборы Аляксандра Неўскага. У Беларускім ліцэі канцэрт адбыўся ў спартыўнай зале, дзе вучні пачулі, у галоўным, свецкія напевы на рускай, французскай і англійскай мовах, але таксама і духоўную рускую музыку. У Саборы вернікі маглі паслухаць духоўныя кампазіцыі Часнакова, Рахманінава ці Архангельскага. Калі слухачы хвалілі хор, яго мастацкі кіраўнік і дырыжор адказаў:

— Самае дрэннае, калі хваляць моладзь; яна павінна выпрацоўваць свае магчымасці праз розныя цяжкасці, а слава прыйдзе пазней. Удзельнікі хору добравядомыя гайнавянам з Фестываляў царкоўнай музыкі, бо ў Гайнаўцы яны ўжо чацвёрты раз. У 1994 годзе маладзёжны хор з Рыбінска заняў II месца на Фестывалі, у катэгорыі аматарскіх хораў. Канцэрты паказалі, што маладзёжны хор „Сакаляты" меў з чым ездзіць у Парыж. Рэпертуар быў амбітны, а ўзровень выканання — высокі. Віртуозныя галасы і добрая акустыка сабора рабілі напевы вельмі займальнымі для публікі.

**Аляксей Мароз**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Чыжы** — мясцовасць з першай паловы XVI стагоддзя, цяпер — сядзіба Гмінная управы, пасёлак з прыхадской царквой Успення Прасвятой Дзевы Марыі. Царква існавала ўжо ў 1571 годзе. У 1898 годзе з Чыжоўскага прыхода быў выдзелены прыход у Курашаве. У міжваенны перыяд Чыжы атрымалі статус штатнага прыхода, у састаў якога ўключаны былі Курашаўскі і частка Пасынкаўскага прыходаў. Драўляны храм згарэў у 1984 годзе.

У Пачатковай шоле (будынак быў узведзены ў 60-х гадах) вучыцца 142 дзяцей, а большая іх частка вучыцца беларускай мове. Пры Гмінным асяродку культуры ўжо дзесяць гадоў працуе фальклорны калектыў „Чыжавяне". З калектывам працуе і заняткі па музыцы ў школе вядзе інструктар з Гродна. Ад двух гадоў будуецца аб'ект, у якім размесціцца Гмінная ўправа, дом культуры, кавярня ды глядзельны зал. Мясцовая бібліятэка прапануе чытачам амаль 8,5 тысячы кніг. Цяпер у Чыжах жыве 510 чалавек. Непадалёк пасёлка, ва ўрочышчы Сярэбраная Горка знаходзяцца залежы дабраякаснай гліны.

**Койлы** — адна з большых вёсак Чыжоўскай гміны. Першая пісьмовая згадка пра мясцовасць паходзіць з 1536 года. У вёсцы знаходзіцца капліца св. Аляксея. Цяпер пражывае тут 215 асоб.

**Асоўка** — вёска распалажана ў 2 км на ўсход ад Чыжоў. Налічвае яна 107 чалавек. Жывуць тут Андрэй Галёнка і Віктар Якапюк — узорныя земляробы.

На паўночны захад ад Чыжоў, пры рэчцы Локніцы, размясцілася вёска **Падрэчаны**, якая налічвае 100 чалавек, а на паўночны ўсход — **Лушчы** з 49 жыхарамі.

**Шастакова** — вёска распалажана каля 1,5 км на захад ад Новага Беразова. У 30 дамах жывуць тут 103 асобы. У 1996 годзе жыхары з дапамогай гмінных улад пабудавалі вясковую амбулаторыю. Солтыс вёскі Міхал Мароз спецыялізуецца ў вырошчванні цукровых буракоў і лічыцца адным з лепшых земляробаў у гміне. Ён з'яўляецца таксама членам Гміннай управы.

**Курашава** — вёска з прыхадской царквой св. Антонія Пячэрскага, распалажана над рэчкай Локніцай на паўночны ўсход ад Чыжоў. Заснавана яна была каля 1560 года. У наваколлі знойдзены многія сляды пасяленняў XII стагоддзя і археалагічныя аб'екты бронзавага века. Да нашых дзён захаваўся старажытны могільнік з левага боку дарогі ў вёску Ляды. У 1961 годзе археолагі адкрылі на ім спаленыя астанкі, упрыгожанні і кераміку XI і XII стагоддзяў. Каля 1900 года ў Курашаве былі 133 дамы з 665 жыхарамі. У 1898 годзе была тут створана самастойная парафія шляхам выдзялення яе з тэрыторыі Чыжоўскага прыхода. У міжваенны перыяд царкву захапілі неаўніты, а праваслаўныя тады афіцыйна належалі Чыжоўскаму прыходу. Пасля 1939 года царква вярнулася ва ўладанне праваслаўных вернікаў.

Пачатковая школа працуе ў двух будынках. Адзін з іх пабудаваны быў да вайны, другі — у 60-х гадах. У 1994 годзе вучылася тут 51 дзіця, а цяпер — 48. Заняткі адбываюцца ў спалучаных класах. У школе вядзецца навучанне беларускай мове. У вёсцы працуе фальклорны калектыў „Незабудкі", якім кіруе Ніна Грыгарук. У Курашаве жыве 427 чалавек.

На ўсход ад Курашава раскінуліся вёсачкі **Максімоўшчына**, **Падвежанка**, **Вежанка** і **Вулька**, пра якую першая пісьмова згадка паходзіць ад 1632 года. Названыя населеныя пункты налічваюць 87 жыхароў. У Вульцы жыве Анатоль Пракапюк — адзін з буйнейшых земляробаў Чыжоўскай гміны.

У 2 км на захад ад Курашава, уздоўж рэчкі Локніцы цягнецца вёска **Ляды**, якая налічвае 72 жыхары. У вёсцы знаходзіцца праваслаўная капліца і жвіроўня. Кіламетр далей на захад размясцілася вёска **Ляпева**, заснаваная Жуком Ляпевічам, які пасяліўся тут каля 1540 года. Цяпер у вёсцы жыве 107 асоб. Абедзве згаданыя вёскі і **Ракавічы** (2 км на захад ад Чыжоў, 84 жыхароў) — гэта адзіныя ў Чыжоўскай гміне мясцовасці, у якіх не пракладзены яшчэ водаправод.

**Камень** — вёска знаходзіцца ў 2 км на поўнач ад Курашава. Заснавана яна была да 1570 года. Цяпер жывуць у ёй 93 асобы. У 100 м на поўнач ад вёскі высіцца курган, які называюць Косцевай Горкай. Гэты купалападобны ўзгорак дыяметрам у 10 м, які быў усыпаны ў XI-XII ст., занесены ў рэестр помнікаў даўніны.

**Міхал Мінцэвіч**

# Новая школа ў Страблі

На працягу апошніх шасці гадоў у гміне Вышкі здалі ў карыстанне тры школы: у Вышках, Фальках і Тапчэве. Сёлета ад 1 верасня 120 дзяцей пачало вучыцца ў новапабудаванай школе ў Страблі.

У старым школьным будынку ў Страблі былі вельмі дрэнныя ўмовы для вядзення заняткаў, таму дзяцей вазілі ў школы ў Дакторах і ў Мулявічах.

Варта адзначыць, што новую школу ў Страблі ўдалося пабудаваць за грошы, атрыманыя між іншым з продажу мясцовага старадаўняга памешчыцкага дома. У гэтым доме з XVIII стагоддзя захацеў мець сабе памяшканне вытворца кінафільмаў. **(яц)**

11 кастрычніка 1997 года на 53 годзе жыцця памёр

**ЯНКА СКЕПКА**

— сакратар Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, член Гайнаўскага аддзела БГКТ, кіраўнік Управы Гайнаўскага раёна.

Бацькам, жонцы, дзецям словы самага глыбокага спачування з прычыны напаткаўшага іх гора выказваюць члены Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, працаўнікі і члены Праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ.

# Беларусы і масоны

*(заканчэнне; пачатак у 46 н-ры)*

Пасля вайны віленскае масонства адрадзілася, але ўжо ў іншай форме. Міхал Ромер перасяліўся ў Коўна, дзе аднавіў ложу „Літва", але ўжо як чыста літоўскую „Летуву". Належаў да яе м.інш. Дамінік Сямашка, міністр беларускіх спраў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі. Пад канец 1921 г. з Вільні пісаў М. Ромеру Іван Краскоўскі паведамляючы, што ў Вільні таксама дзейнічае ложа, але няма звестак, якую канкрэтна ложу меў на ўвазе. Пасля свайго высялення з Вільні ў 1922 г. І. Краскоўскі затрымаўся на нейкі час у Коўне і прымаў удзел у сходах ложы „Летува".

Масонства ў незалежнай Польшчы прыняло новыя арганізацыйныя формы. Вялікі Усход Францыі асацыяваўся з расійскім масонствам. Да таго французскай палітычнай арыентацыі прытрымоўваліся польскія нацыяналдэмакраты („эндэкі"). „Пілсудчыкі", якія складалі большасць масонаў, пераарыентоўваліся на Вялікабрытанію. Таму польскае масонства перайшло ў Вялікую Ложу Шатландыі. Шатландскі абрад канкураваў з французскім абрадам, але распісвацца тут пра гэта лічу неістотным.

Польскае масонства мела між іншым заданне распаўсюджваць брацкую ідэю на ўсходзе, сярод украінцаў і беларусаў. Магчымага стваральніка беларускай ложы польскія браты бачылі ў Браніславе Тарашкевічу. Пачаткова думалі таксама аб Вацлаве Іваноўскім і Лявоне Вітан-Дубейкаўскім, але першага з іх дыскрэдытаваў праведзены якраз развод, а другога палічылі чалавекам надта „абмежаваным".

Тарашкевіча рыхтаваў да масонства стары знаёмы з Пецярбурга інжынер Зябіцкі. Ён гаварыў Тарашкевічу больш-менш такое: Сам ён, Зябіцкі, родам з Беларусі і належыць да людзей, якія спачуваюць беларускаму руху. Рыжскі дагавор робіць становішча трагічным. Усё-такі не трэба кідацца ў роспач, бо магчыма, што падзел Беларусі стане паваротным пунктам яе адраджэння. Пачнецца спаборніцтва паабапал мяжы: польскі і савецкі ўрады будуць старацца скарыстаць беларускае пытанне адзін супраць другога. Ён, Зябіцкі, і ягоныя палітычныя сябры хацелі б садзейнічаць стварэнню беларускага П'емонта на занятай палякамі тэрыторыі. Дзеля таго неабходнае ўзаемаразуменне і давер людзей сумленных, адданых справе і ўплывовых, не паддадзеных нацыянальным і рэлігійным прадузятасцям. Такім чалавекам браты бачаць Тарашкевіча.

Тарашкевіч згадзіўся і быў прыняты ў брацтва ў галоўнай „святыні" ў Варшаве. Рытуал прыняцця вёў сам вялікі магістр брацтва, вядомы пісьменнік Анджэй Струг. Тарашкевіча прынялі ў ложу „Праўда", да якой належалі ў асноўным палітыкі і дыпламаты, у тым ліку будучы прэзідэнт Габрыель Нарутовіч. Дарэчы, паводле Тарашкевіча, у той час было немагчымым, каб міністрам стаў немасон. Масоны нават пачалі разважаць аб спавальненні набору новых братоў, каб спыніць прыток кар'ерыстаў.

Паколькі Тарашкевіч рэдка бываў у Варшаве, яго рэкамендавалі ў віленскую ложу „Траўгут". У яе склад уваходзілі даваенныя масоны: Вітальд Абрамовіч, Браніслаў Кжыжаноўскі, Ян Пілсудскі, Зыгмунт Нагродскі, Аляксандр Заштаўт і шмат іншых выдатных дзеячаў. Усе яны былі ва ўладах г.зв. Сярэдняй Літвы з В. Абрамовічам на чале. Тарашкевіч быў кіраўніком аддзела беларускага школьніцтва ў ведамстве асветы гэтага ўрада. Дык няма дзіва, што на сходах ложы браты таксама займаліся справамі Сярэдняй Літвы.

Аднойчы Тарашкевіч паставіў на абмеркаванне пытанне аб беларускіх школах, якія пачалі душыць пасля таго, як В. Абрамовіч быў прымушаны пайсці ў адстаўку з пасады кіраўніка ўрада пад ціскам эндэкаў. Як піша Тарашкевіч, пры абмеркаванні пастаўленага ім пытання многія з братоў прыадкрылі свой паланізатарскі воблік. Тарашкевіч востра дакараў братоў, але беспаспяхова.

Яшчэ горш было, калі выявілася, што браты не збіраюцца пратэставаць супраць высялення з Вільні 33 беларусаў і літоўцаў (у тым ліку, як ужо аб тым гаварылася, і шаноўнага брата І. Краскоўскага). Да таго Тарашкевіч сцяміў, што браты-палякі ладзяць сходы па гэтаму пытанню па-за ягонай спіною. Віленская ложа са свайго боку была незадаволеная ўдзелам Тарашкевіча ў арганізаванні байкоту выбараў у Сойм Сярэдняй Літвы.

Калі Б. Тарашкевіч стаў паслом у Сейм ІІ Рэчы Паспалітай, перайшоў зноў у варшаўскую ложу „Праўда".

Пасля захопу літоўцамі Клайпеды на пачатку 1923 г. усе польскія фракцыі Сейма падпісалі заяву, якая павінна быць прынятая ўрачыста „ўсім" Сеймам. Тым часам Тарашкевіч нечакана выступіў супраць прыняцця заявы, нападаючы адначасова на польскую акупацыйную палітыку на Заходняй Беларусі і Украіне.

Неўзабаве Тарашкевічу давялося быць у ложы, дзе якраз абмяркоўвалася клайпедскае пытанне. Разумеючы двухсэнсоўнасць і невыноснасць свайго становішча, Тарашкевіч заявіў, што лічыць сваё далейшае прабыванне ў масонстве несумяшчальным з пасольскім мандатам і наогул са сваёй палітычнай дзейнасцю. Нейкі час браты прабавалі ўгаварыць брата-беларуса. Калі ён усё-такі адмовіўся, выказалі яму нават прызнанне за простае і сумленнае выясненне пытання. З просьбай утрымаць усё ў тайне, аб'явілі Тарашкевічу аб ягоным „усыпленні", г.зн. выключэнні.

На гэтым, відаць, і канчаецца беларуская прыгода з масонствам, хаця з гэтым таемным брацтвам ніколі не вядома. Першае, што кідаецца ў вочы ў гэтай гісторыі, гэта яе двухсэнсоўнасць.

З аднаго боку амаль кожны з пералічаных віленскіх масонаў стаў нейкім міністрам. З беларусаў Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі былі прэм'ер-міністрамі беларускага ўрада, Дамінік Сямашка — міністрам беларускіх спраў літоўскага ўрада, а Іван Краскоўскі — намеснікам міністра ўнутраных спраў урада Украінскай Народнай Рэспублікі і намеснікам міністра замежных спраў Дырэкторыі УНР. З літоўцаў: М. Слежавічыус быў двойчы прэм'ер-міністрам літоўскага ўрада, М. Біржышка — міністрам асветы, Ёнас Вілейшыс — міністрам унутраных спраў і фінансаў, а Ю. Шауліс — паслом у Берліне, Берне, Ватыкане і Варшаве. З палякаў амаль усе ўвайшлі ў склад урада Сярэдняй Літвы.

З другога боку ўсе вышэйназваныя былі выдатнымі палітыкамі і дзеячамі да свайго ўступлення ў брацтва. Можна не сумнявацца, што да сваіх высокіх пасадаў дайшлі б і без масонства. Такім чынам, іхнія кар'еры сведчаць больш аб добрапастаўленым наборы ў брацтва, чымся аб яго ўплыве на палітыку.

Прыналежнасць да масонства безумоўна рабіла лягчэйшымі розныя сакрэтныя палітычныя размовы, асабліва між лідэрамі розных нацыянальнасцей. Усё ж такі вынікі тых размоў заўжды аказваліся нулявымі.

Расійскія масоны ані думалі ўступіць у нечым сваім беларускім братам, калі ўжо прыйшлі да доўгачаканай улады ў Расіі.

Краёвая ідэя, якой прытрымліваліся віленскія масоны, аказалася утопіяй, а браты палякі, літоўцы і беларусы кінуліся ствараць свае нацыянальныя дзяржавы і войскі.

Такім чынам ідэя брацтва народаў ці то сусветнага, ці толькі ў рамках Расійскай імперыі, Рэчы Паспалітай або Вялікага княства Літоўскага аказалася ілюзіяй.

Затое палітычная субкультура змовы „эліты", скрыванне сваіх мэтаў не толькі ад улады, але і ад грамадства пераклала шлях бальшавіцкай сістэме ў Расіі, а ў Польшчы спарадзіла больш цывілізаваны варыянт аўтарытарнага рэжыму „санацыі".

З беларускага пункту гледжання ўдзел нацыянальных лідэраў у масонскай гаварыльні быў выключна стратай часу.

**Алег Латышонак**

# Балгарыя на раздарожжы

У Балгарыі ад нейкага часу ўлада знаходзіцца у руках некамуністычных палітыкаў. Не абазначае гэта, што Балгарыя перастала быць сацыялістычнай дзяржавай, а балгары выбралі шлях да дэмакратыі і рыначнай эканомікі. Наадварот, большасць грамадзян гэтай краіны зусім не ведае, як жыць ва ўмовах, калі сярэдняя месячная заработная плата не дасягае 70 долараў, а цэны на 20 працэнтаў вышэйшыя чым у Польшчы. Вялікія сацыялістычныя прадпрыемствы штораз часцей замест вытворчасці выпускаюць новую хвалю беспрацоўных. Малыя прыватныя фірмы з вялікай цяжкасцю ставяць першыя крокі. Не хапае капіталу, каб раскруціць інтарэсы, а дзяржава і мафія адбіраюць вялікую частку прыбытку, які мог бы быць выкарыстаны для новых інвестыцый. Як кажуць балгарскія журналісты — няма такіх уласнікаў прыватных фірмаў, якія не плацілі б падаткаў мафіі ці дробным рэкецёрам.

У Балгарыі, так як у большасці посткамуністычных краін, разам з першымі прамянямі дэмакратыі з'явілася хваля бандытызму і зладзейства. Законы перасталі мець якое-небудзь грамадскае значэнне. Відаць гэта, дарэчы, на кожнай вуліцы. Аўтамабілі стаяць на тратуарах, амаль каля сцен будынкаў, а пешыя ходзяць па маставой побач трамваяў, аўтобусаў, легкавых машын.

Пабываючы ў цэнтры Сафіі відаць, што ніхто старажытных будынкаў у сталіцы не рэмантаваў дзесяцігоддзямі, вуліц не замятаў прынамсі ад вясны. Базараў аднак столькі, колькі ў Польшчы было на пачатку дзевяностых гадоў. Можна купіць там амаль усю спадчыну камуністычнай культуры — асабліва партрэты Сталіна, Леніна, Маркса, балгарскіх правадыроў рабочага люду, таксама іх усялякіх памераў бюсты. Поўную уніформу афіцэра савецкай арміі можна набыць за пяць долараў. На прылаўках пад адкрытым найчасцей небам ляжаць мільёны кніжак, у тым ліку шмат камп'ютэрнай літаратуры.

Асаблівае ўражанне ў сталіцы Балгарыі робяць цэрквы. У гэтай да нядаўна шчыра камуністычнай дзяржаве і сёння ўспрымаюцца яны выключна як помнікі культуры. На нядзельнай вячэрняй багаслужбе ў саборы Аляксандра Неўскага ў цэнтры Сафіі прысутнічала, разам з ніжэй тут падпісаным, шэсць асоб. Балгарскія царкоўкі, якія будаваліся падчас турэцкай акупацыі ў XV-XVIII стагоддзях, выглядаюць так, быццам бы купалы ставіліся проста на зямлі. Туркі дазвалялі ўзводзіць праваслаўныя храмы пры ўмове, што іх архітэктурны корпус будзе схаваны ў зямлі. Улады, дарэчы, нядаўна аддалі цэрквы ў карыстанне вернікам. У Сафіі ўсе яны адкрыты амаль цэлы дзень. У падзямеллі царквы Аляксандра Неўскага знаходзіцца дзяржаўны музей іконаў. За тры долары можна ў ім пабачыць некалькі тысяч твораў балгарскага царкоўнага мастацтва XIII-XVIII стагоддзяў. Некаторыя іконы былі вырваны з іканастасаў старажытных манастыроў, іншыя — вывезены са зруйнаваных храмаў. Амаль усе цэрквы патрабуюць рамонтаў. Нешматлікім вернікам не пад сілу самім аднавіць дахі і сцены сталічных храмаў. Адзіны паратунак можа прыйсці толькі з боку дзяржавы, але тая — як гавораць самі балгары — такая бедная, што ёй самой патрэбна дапамога.

Балгары найбольш баяцца беспрацоўя. Найчасцей пытаюць, на якія сродкі ў Польшчы жывуць беспрацоўныя. Ведаюць, што ў нашай краіне ёсць іх амаль тры мільёны. Балгары выбралі шлях такі самы што Польшча, але без энтузіязму і надзеі на лепшую будучыню ставяць кожны крок у гэтым напрамку.

**Яўген Мірановіч**

# Тэлевізіі захацелася!

У снежні Беластоцкае тэлебачанне стане трансляваць на 35 канале сваю асобную 6-гадзінную праграму. Ужо дзеля гэтага падрыхтаваны і пасвячаны (у каталіцкім і праваслаўным абрадах) перадатчык у Крыніцах. Сімвалічнае адкрыццё яго здзейсніў 14 лістапада старшыня Управы Польскага тэлебачання Рышард Мязэк.

З гэтай нагоды ў сядзібе Беластоцкага тэлебачання, па вуліцы Влукенічай адбыўся вялікі банкет, на якім можна было ўбачыць мясцовую палітычна-культурна-рэлігійную эліту. У Беласток прыехалі дырэктары іншых рэгіянальных аддзелаў Польскага тэлебачання, каб абмяняцца вопытам і дамовіцца на будучы абмен матэрыяламі. Беластоцкае тэлебачанне, паводле дырэктара Казімежа Пуцілоўскага, таксама мае што паказаць іншым. Гэта, хаця б, слаўны апошнім часам тэатр „Вершалін" і часта-густа ўзнагароджваны Беластоцкі тэатр лялек. „І, увогуле, тэмаў у нас дастатак", — запэўніваў спадар дырэктар. Калі хто спадзяваўся пачуць, што сярод атракцыйных іншым рэгіёнам тэмаў могуць быць справы нацыянальных меншасцей, крыху расчараваўся. Пра гэта ніхто і не заікнуўся ў час святкавання.

Мала таго, кіраўнік беларускіх тэлеперадач Юры Каліна, які склаў пісьмовыя прапановы серыйных публіцыстычных праграм на беларускай мове, пачуў ад праграмнага дырэктара Беластоцкага тэлебачання Войцеха Варатынскага, што няма на іх запатрабавання. Надалей застаецца адзінаццаць мінут у тыдзень у рамках тэлежурнала „Самі пра сябе"?

**М. В.**

# Раскол

Яшчэ нядаўна ўлады Беларусі хваліліся стабільнасцю грамадска-палітычнага становішча ў сваёй краіне. Стабільнай выглядала таксама Праваслаўная царква ў Беларусі, арганізаваная ў беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы. Гэтая стабільнасць уражвала асабліва на фоне бясконцых падзелаў праваслаўя на Украіне.

Ды вось на Беларусі з'явілася Беларуская народная праваслаўная царква, якая карыстаецца таксама назвай „аўтакефальная". Адзіны святар гэтай царквы гэта а. Пятро Гушча. Пісаў я аб ягоным удзеле ў шэсці з нагоды Свята незалежнасці ў ліпені. Айцец Пятро ўжо з 1996 г. знаходзіцца на чале ўсіх патрыятычных шэсцяў.

Пішу „айцец", але ж мушу адзначыць, што нават прыхільны П. Гушчу аўтар, Севярын Квяткоўскі з „Нашай нівы" цвердзіць, што П. Гушча згодна з праваслаўнымі канонамі не з'яўляецца рукапакладзеным, значыць, кананічным святаром. Паводле „Царкоўнага пасланца" выдавнага пад эгідай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (на эміграцыі), П. Гушча наогул не ёсць праваслаўным.

Сам П. Гушча сцвярджае таямніча, што ў яго такі складаны лёс, што пакуль яшчэ не ўсе з прыхільнікаў БАПЦ гатовы прыняць яго біяграфію. З яго выказванняў можна скласці кароткае „Веру...", з трох сказаў, якія пачынаюцца са слова „адзінае":

„Адзінае, у чым ні ў кога не можа быць сумневу — я стары антысаветчык, а ў беларускай справе вельмі даўно, і я не кіну гэтую справу".

„Адзінае я ведаю дакладна — расейскае царквы тут не павінна быць".

„Адзіныя, каго мы ніколі не дапусцім да нашай царквы, — былыя святары РПЦ. Агентаў нам не трэба".

Царква а. Гушчы мае тры прыходы: у Мінску, Сёмкавым Гарадку пад Мінскам і ў Лідзе. Сваіх цэркваў пакуль што не мае, але першая ўжо будуецца ў Лідзе. У Сёмкавым Гарадку службы ладзяцца ў будынку касцёла, які фармальна належыць РПЦ, але ж на яго прэтэндуюць і сёмкаўскія каталікі. Пакуль што яны заяўляюць, што не будуць афіцыйна выступаць за вяртанне касцёла так доўга, як моляцца там прыхаджане а. Гушчы. Вернікаў у царкве П. Гушчы паводле яго самога быццам бы трыццаць тысяч, але хто іх палічыць.

Беларуская народная праваслаўная царква з'яўляецца епіскапствам Сусветнага амерыканскага патрыярхату, створанага беларускім эмігрантам Уладзіславам Рыжы-Рыскім. Пасля смерці патрыярха Уладзіслава ў 1978 г. першаіерархам БНПЦ і адначасова апостальскім адміністратарам Патрыярхату стаў ягоны брат Юры (Рыжы). Ён і прыняў П. Гушчу ў склад БНПЦ.

Паводле згаданага „Царкоўнага пасланца", БНПЦ — гэта секта, а Ю. Рыжы не толькі не святар, але і не праваслаўны. Праўду кажучы, падобныя меркаванні можна пачуць ад любога беларускага эмігранта за акіянам. У найлепшым выпадку царкву Рыжы-Рыскіх лічаць сямейным мерапрыемствам. Падчас Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Клііўлендзе ў 1990 г. у кулуарах крывіліся, што ўладыку Юрыя дапусцілі да супольнай службы, бо быццам бы мелі не дапусціць. Усё ж такі, як то беларусы, прыцярпеліся.

Відаць, трэба было авантурысцкай жылкі Рыжы-Рыскіх, каб умяшацца ў справы праваслаўнай царквы ў Беларусі. Дагэтуль ні абедзве эміграцыйныя БАПЦ, ні беларускія прыходы ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха гэтага не рабілі. Відаць, толькі факт, што ўладыка Юры займеў прыходы на Бацькаўшчыне, выклікаў актыўнасць з боку мітрапаліта Ізяслава, першаіерарха адной з эміграцыйных БАПЦ. Надоечы пабываў ён у Кіеве, дзе правёў нарады з патрыярхам УПЦ Філарэтам і заключыў дамову „Аб прынцыпах узаемаадносінаў паміж Украінскай і Беларускай праваслаўнымі цэрквамі". Згодна з дамовай, украінцы маюць дапамагчы ў аднаўленні БАПЦ у Беларусі. Адразу пасля перамоваў адбылася сустрэча мітрапаліта Ізяслава з ініцыятыўнай групай па стварэнні прыходаў БАПЦ у Беларусі. Абмяркоўваліся праблемы арганізацыі тых прыходаў і царкоўнай структуры (мэтай з'яўляецца стварэнне свайго патрыярхату), ды тое, як спыніць „наступ Гушчы". Той ніяк не збянтэжыўся. Прыпомніў, што як УПЦ, так БАПЦ з'яўляюцца неканаанічнымі, а размову аб неканаанічнасці сваёй царквы палічыў абсурдам.

Кананічна ці не кананічна, але рэальна ў Беларусі дзейнічаюць сёння дзве праваслаўныя царквы: РПЦ і БНПЦ, а збіраецца пачаць дзейнасць трэцяя, БАПЦ. Выглядае, П. Гушча рушыў камень, які можна пацягнуць лавіну.

**Алег Латышонак**

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

Прага, 15.5.1962.

Дарагі Яўген Іванавіч!

З Мінска мне напісалі, што Ты ў Карлавых Варах адпачываеш і што апублікаваны Указ аб узнагароджанні Цябе ордэнам Леніна ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем Савецкага друку. Прасілі перадаць Табе гарачыя віншаванні, што з радасцю раблю за іх і за сябе.

Як доўга будзеш у К.В.? Як сябе адчуваеш? Ці не магу быць Табе карысным? Ці не патрабуеш што з Прагі? Ці не хочаш у Празе затрымацца даўжэй? Напішы мне, зраблю ўсё, што змагу. Лічы мой „кут" сваім (і ўсё, што ў ім), калі захочаш быць маім госцем. Мо хочаш, каб да Цябе прыехаў у К.В., скажам, у нядзелю 20 ці 27 мая? (Магу і ў іншы дзень.)

Чакаю адказу, а пакуль што жадаю Табе і жонцы, калі яна з Табою, усяго-ўсяго найлепшага.

Шчыра Твой М. Забэйда.

P.S. Можаш мне затэлефанаваць (найлепш каля 18 гадзін).

Мой № 52565

„Не знаю, калі я паспеў пастарэць,
Растацца з юнацкімі марамі,
Амаль развучыўся смяяцца і пець,
Узброіў свой нос акулярамі"...

* * *

Прага, 5.I.1963.

„...І ён успомніў свой край марозны і, як па матцы дзіцё, заплакаў".

Дарагі, харошы Максіме!

Калі я спяваў у Мінску на канцэрце, арганізаваным нашымі пісьменнікамі, дык, між іншым, сказаў, што многім забавязаны нашым пісьменнікам. Вось і цяпер яны, і ў першым радзе Ты, мяне моцна маральна падтрымліваюць. То кнігу прышлюць, то верш напішуць... А Твае пісьмы — гэта лепшае для мяне лякарства. Бо розных парашкоў ды пілюлек і ў нас даволі. Ды наогул лекаванне тут пастаўлена вельмі добра. Але „зуб часу" робіць сваё. І ўсё ж я, пакуль што, не здаюся: хачу вясной зноў паспяваць на Радзіме. Гатоўлю новы рэпертуар. Трэба толькі, каб Мінск у час звярнуўся ў Госканцэрт у Маскве па дазвол. Без запросін з Госканцэрта наш Прагаканцэрт не зможа мяне да Вас паслаць, а калі б я сам паехаў, дык не мог бы там спяваць, бо гэта дзяржаўныя (манапольныя) арганізацыі (установы). Спадзяюся, што ў Мінску нехта што трэба робіць (так мы перад маім ад'ездам дагаварыліся). Але буду Табе ўдзячны, калі знойдзеш час і зацікавішся гэтаю справаю бліжэй. Ведаю толькі, што пры добрай арганізацыі мае паўторныя выступленні мелі б яшчэ большы поспех, і арганізатары маглі б на гэтым зарабіць. Памятаю, у Віцебску на канцэрце слухачы чакалі больш паўгадзіны каля аўтобуса, у якім мяне адвозілі да гатэлю, і сказалі, што калі б раней было вядома, хто да іх прыехаў, дык зал не памясціў бы ўсіх, бо хацеў бы паслухаць свае песні. І ў іншых гарадах казалі, што плакаты былі расклеены вельмі позна і было іх мала. Апрача таго, плакаты былі вельмі агульныя: па іх не можна было дагадацца, што (якога кампазытара) на канцэрце пачуеш! Гэта ўсё не трудна злепшыць, таму аб гэтым і пішу. Галоўнае, аднак, у час прысласць у Прагаканцэрт запросіны, бо пры першым падарожжы апрача заграгічнага пашпарта, які прыпадкова ўзяў раней, на руках не меў нічога. І калі б у Мінску нам не выйшлі насустрач, дык мы з Кожынам не ведалі б, што і рабіць. І ўсё ж успаміны аб гэтым падарожжы ў нас са Здэнькам такія, што мы хацелі б гэта падарожжа паўтарыць. Добра было б выступіць і ў Вільнюсе. Адтуль мне напісалі, што многія, слухаючы расказ аб тым, як было ў Мінску, плакалі, што не маглі пачуць сваіх песень.

Трэба было б наспяваць і новыя грампласцінкі, бо ранейшыя ўсе распрададзены. І гэту справу трэба рабіць праз Госканцэрт у Маскве. Без дазволу адтуль, здаецца, няможна і па Мінскім радыё выступіць. (Можа, памыляюся?!.)

Мушу сказаць, што пасля выступленняў на Беларусі шмат хто перастаў думаць, што Мінск — гэта правінцыя. Адным словам, мне здаецца, што пакуль яшчэ спяваю, гэтыя выступленні трэба паўтарыць. А канчу Тваім прыгожым жаданнем: „Так хацелася б, каб у гэтым новым годзе больш у нас было харошых сяброўскіх сустрэч, каб усе былі жывы, здаровы, каб яшчэ больш нарадзілася харошых песень, больш было радасных дзей у жыцці". Ад сябе яшчэ дадам: каб твае вершы трапілі ў сэрцы тых, для каго Ты пішаш. Каб рабілі людзей лепшымі!

Шлю ўсім сябрам сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні. (Любоў Андрэеўне асобна!)

Твой удзячны Міхась Забэйда.

P.S. Аб рамане „Людзі на балоце" чуў, але не чытаў, бо тут яго няма. Мо патрабуеш, што з Прагі? Толькі напішы — рад прышлю.

М. З.

# Дзе падзеліся з Сакольшчыны беларусы?

[1 ☞ працяг]

немцах у час II сусветнай вайны — паверску забілі зімою 1943 года каля Юхнаўца, праўдападобна, палякі.

Старасці дажыў геніяльны, — як сцвярджаюць тыя, хто яго ведаў (між іншым, Ежы Максымюк) і тыя, хто чытаў яго ноты, — піяніст і кампазітар Ян Тарасевіч. Аднак заплаціў за гэта поўнай невядомасцю. Страціў таксама свой маёнтак Шындзель. Затое пахавалі яго, згодна з тастаментам, на праваслаўных могілках у Саколцы.



*Спявае Віктар Скорабагатаў.*

Бліскучы, узнагароджаны воплескамі рэферат пра Яна Тарасевіча прачытаў творца менскай „Беларускай капэлы" Віктар Скорабагатаў. З лёсам Уладыслава Казлоўскага знаёміла Лена Глагоўская з Гданьска. Ігар Жук (Гродна) падрыхтаваў даклад пра Уладыслава Чаржынскага, Алег Латышонак (Беласток) — пра Янку Чарапука, Вячаслаў Харужы (Беласток) — пра Міхала Чарнецкага. Пра Гродзенскі гуртток беларускай моладзі рэферат падрыхтаваў Аляксей Пяткевіч, але, з-за няважнага пашпарта, у Саколку не змог прыехаць. Заступаў яго Сяргей Піваварчык.

Канферэнцыя не зводзілася адно да XX стагоддзя і толькі да біяграфічных рэфератаў. Сяржук Токць (Гродна) прасачыў нацыянальнасць дзяржаўных служачых Сакольскага ўезда канца XIX і пачатку XX стагоддзяў, а Уладзімір Сосна (Менск) — сацыяльны склад сялянства Сакольшчыны ў I палове XIX стагоддзя. Генадзь Семянчук (Гродна) гаварыў пра дакументы па гісторыі Праваслаўнай царквы на Сакольшчыне, якія можна знайсці ў Гродзенскім дзяржаўным архіве, а Валянцін Голубеў з Менска — пра Сакольшчыну ў XVI-XVII ст.ст. як частку Гродзенскай каралеўскай эканоміі. Найдалей у мінуўшчыну заглыбіўся Эдуард Зайкоўскі (Менск), які расказваў пра зафіксаваныя на Сакольшчыне перажыткі паганства.

Выстаўку здымкаў і матэрыялаў пра выдатных беларусаў Сакольшчыны падрыхтаваў В. Харужы.

Наколькі ў пачатку канферэнцыі наглядалася нейкая няўпэўненасць і адчужанасць у вялікай і пуставатай кавярні Сакольскага асяродка культуры, настолькі канец („делу венец", як кажуць расейцы) быў велічны. Перш за ўсё, за справай канцэрта Віктара Скорабагатава, з акампанементам фартэпіяна Галіны Каржанеўскай. За няцэлую гадзіну публіка змагла прасачыць гісторыю беларускай музыкі, упісаную ў еўрапейскі кантэкст.

* * *

Абсалютнай нечаканасцю было з'яўленне на канцэрце класічнай музыкі дзесяткаў двух сакольскай моладзі. Зацікаўленне канферэнцыяй праявіла мясцовая газета і ўлады. Віцэ-бурмістр Чэслаў Санько, які прызнаецца, што дома гаворыць па-беларуску, дапытваўся, калі будуць надрукаваны матэрыялы і нават абяцаў фінансавую дапамогу. Наведаў канферэнцыю мясцовы бацюшка Уладзімір Місяюк і наш шматгадовы чытач з Сідаркі Канстанцін Бялюк, герой рэпартажу Ганны Кандрацюк. Добра і гэта, у спаланізаванай дашчэнту Саколцы.

Успомнены перапіс 1897 года зафіксаваў у Сакольскім уездзе 1,2% палякаў.

**Мікола Ваўранюк**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# „Першацвет" — акно ў свет

Ужо пяць гадоў у Менску выдаецца часопіс (штомесячнік) маладых літаратараў Беларусі „Першацвет". Яго пачаткам была літаратурная старонка ў газеце „Чырвоная змена". Некаторыя, хто пачынаў у той час працаваць над словам і развіваць свой талент, ужо аўтары зборнікаў паэзіі ці прозы, працуюць у часопісах як крытыкі, сталі навукоўцамі і выкладчыкамі. У часопісе друкуюцца аўтары розныя па ўзросту — вучні пачатковых і сярэдніх школ, студэнты, „спозненыя" дэбютанты сталага ўзросту, запрашаюцца ў „Гасцёўню" вядомыя пісьменнікі. Шлюць на разгляд свае творы маладыя людзі з вёсак і гарадоў усяе Беларусі, публікаваліся і творы з замежжа — з Беласточчыны, з Расіі, Амерыкі. У панядзелкі ў памяшканні рэдакцыі адбываюцца сустрэчы, кансультацыі, супольны аналіз тэкстаў.


*На юбілеі „Першацвету" выступілі дзеткі з Мёдчы. Ой, колькі радасці было!*

Напэўна, вялікай радасцю маладому аўтару ёсць убачыць у друку свой твор, сваё прозвішча — вы ж гэта ведаеце! Твор — кветку, плод тваёй душы, роздумаў, імкненняў і працы.

„Першацвет" прапануе змясціць на сваіх старонках падборку твораў маладых аўтараў з Беласточчыны. Калі хто з Вас хоча паказаць свае тэксты на шырэйшым форуме, просім іх са здымкам даслаць ці прынесці ў „Зорку" (або запрасіць рэдактара да сябе ў школу, калі ёсць больш зацікаўленых вучняў). Добра было б сустрэцца, разгледзець тэксты, супольна папрацаваць. Калі хтосьці з аўтараў будзе мець больш цікавых твораў, можа атрымацца і асобны дэбют у „Першацвеце". Запрашаем!

**Міра ЛУКША**
*Фота аўтара*

# Як птушкі вучыліся будаваць гнёзды

***(Кітайская народная казка)***

Аднойчы фенікс склікаў птушак, каб навучыць іх будаваць гнёзды. Прыляцелі ластаўка, верабей, варона, ястраб, сава і курыца.

Фенікс сказаў:

— У кожнай птушкі павінна быць гняздо. Але навучыцца будаваць гняздо — няпростая справа. Для гэтага трэба мець цярпенне, інакш нічога не атрымаецца.

Не паспеў ён дагаварыць гэтыя словы, як курыца стала кляваць носам і тут жа заснула.

Не слухала фенікса і сава. Яна вытрэшчвала на яго круглыя жоўтыя вочы і з прыкрасцю думала:

„У фенікса занадта стракатае пер'е і вельмі пяшчотны голас. Хіба можа такі прыгажун чаму-небудзь навучыць? Дарэмна я прывалаклася сюды".

Яна раптам гучна зарагатала — бо совы заўсёды рагочуць, калі чым-небудзь незадаволеныя — і паляцела прэч.

Фенікс між тым працягваў:

— Перш як будаваць гняздо, трэба выбраць для яго зручнае месца. Напрыклад, галінку з трыма развілкамі...

Ястраб, пачуўшы гэта, сказаў сабе:

„Аказваецца, гэта зусім проста. Галінак з трыма развілкамі колькі хочаш. Я ўжо зразумеў, што такое гняздо!"

Ястраб узмахнуў крыламі і паляцеў. А фенікс — цар птушак — усё гаварыў:

— Потым трэба сабраць галінкі і, дапамагаючы дзюбай і лапамі, сагнуць іх і пакласці адна на адну..."

Даслухаўшы да гэтага месца, варона каркнула:

— Карр! Калі ўся справа ў моцнай дзюбе і ўчэпістых лапах, то ў мяне будзе выдатнае гняздо. Больш мне і ведаць нічога не трэба. — І, каркнуўшы яшчэ раз, яна паляцела.

Фенікс тлумачыў далей:

— Але гняздо не абавязкова будаваць на развілцы галінак, — яго лепш звіць пад дахам дома, дзе будуць не страшныя ні дождж, ні снег...

Верабей страпянуўся.

— Вось і добра! Палячу хутчэй у горад, пакуль не занялі ўсе лепшыя месцы пад дахамі.

Ён так заспяшаўся, што нават забыўся чырыкнуць на развітанне. Але фенікс яшчэ не закончыў:

— Пасля таго, як выбрана месца і галінкі звітыя, трэба прынесці гліны і замазаць усе шчыліны. Потым трэба наслаць унутры сухой травы і мяккага пуху. Вось тады і атрымаецца цудоўнае ўтульнае жытло.

Фенікс замаўчаў. Маленькая ластаўка даслухала ўсё да канца, ветліва падзякавала цару птушак і паляцела. Паляцеў і фенікс, засталася толькі курыца, якая мірна спала.

Праз некаторы час курыца прачнулася, убачыла, што побач з ёй нікога няма, і сказала:

— Я, здаецца, крышачку задрамала. Але, праўда ж, гэта лепш, чым слухаць пустыя размовы. Нездарма гаворыцца ў прыказцы: „Калі фенікс садзіцца на седала, ён робіць гэта горш, чым курыца". Чаму ж ён мяне можа навучыць?! — і, кудахкаючы, яна адправілася дамоў.

Так курыца і не ўмее віць гнёзды. Яна жыве ў куратніку, які для яе будуюць людзі. Не навучылася будаваць гняздо і сава. Удзень яна спіць у дупле, уночы сядзіць на дрэве і рагоча. Ястраб знайшоў тоўстую развілку на вялікім дрэве і сяк-так уладкаваўся там.

Варона ўе сабе гняздо. Але якое гняздо! Тоўстыя галінкі тырчаць у розныя бакі, вецер прадзімае іх наскрозь, дождж палівае зверху! Верабей жыве ў шчылінах пад дахамі дамоў.

Толькі адна ластаўка, якая цярпліва выслухала ўсё, што сказаў фенікс, умее віць сапраўднае гняздо. Гняздо яе звонку аблеплена глінай, усярэдзіне выслана сухой травой і мяккім пухам. У ім не страшныя ні дождж, ні вецер, і птушкам заўсёды цёпла і ўтульна.

*З рускай мовы пераклаў*
*Валерый БАБЕЙ*

# Каханым настаўнікам — вучні

13 кастрычніка г.г. у бельскай „тройцы" адбылася вечарына з нагоды Дня настаўніка. Урачыстасць праходзіла пад лозунгам: „Каханым настаўнікам — вучні".

Мерапрыемства было падзелена на тры часткі.

Першая з іх гэта віншаванні і зычанні. Старшыня школьнага самаўрада Дыяна Несцярук выступіла з падзякай настаўнікам. Яна ўручыла нашаму дырэктару Васілю Ляшчынскаму кветкі. Далей слова ўзяў дырэктар школы, які прывітаў усіх удзельнікаў мерапрыемства.

І пачалася артыстычная частка. Думаю, што настаўнікі хацелі пабачыць сваіх выхаванцаў на сцэне. Дагэтуль на Дзень настаўніка выступалі пераважна вучні старэйшых класаў. У гэтым годзе было аднак інакш.

На сцэне царствавалі малодшыя і гэта яны атрымалі найбольш воплескаў. Апладысменты, вядома, былі заслужаныя. І так артыстычная частка ў выкананні малодшых сяброў (з класаў I—IV) захапіла ўсіх.

Аднак старэйшыя вучні маюць свой гонар. Дзяўчаты VII—VIII класаў выступілі з гумарыстычнай сцэнкай, якая прадстаўляла „бесклапотнае жыццё настаўнікаў і вучняў". Маю надзею, што настаўнікі не былі вельмі злосныя за тое, што вучаніцы крыху пажартавалі з іх прычосак і вопраткі. Сяброўкі сапраўды выглядалі цікава.

На заканчэнне выступілі васьмікласніцы з песняй, якая выклікала ва ўсіх сімпатычны настрой. Вельмі прыемнай хвілінай было ўручэнне ўзнагарод для настаўнікаў ад школы. Узнагароды гэтыя прысвоіла дырэкцыя нашай школы з нагоды Дня народнай адукацыі. Узнагароджаны былі дваццаць тры настаўнікі. Нават і бурмістр горада Бельска-Падляшскага прызначыў узнагароды пяці выхаванцам нашай школы.

І я жадаю ўсім настаўнікам задавальнення сваёй працай і плённых вынікаў. Да пажаданняў далучаю малюнак Эміліі Лапацюк з кл. VIII „а", які ўзнік спецыяльна для настаўнікаў і вучняў, якія чытаюць „Зорку".

**Жанэта Роля**


*— Найлепшыя пажаданні нашым настаўнікам і чытачам „Зоркі".*
Мал. Эміліі ЛАПАЦЮК

# Францыск Скарына

## альбо *Як да нас прыйшла кніга*

*(працяг; пачатак у 47 нумары)*

***Продак паперы***

У Афрыцы, у Егіпце, людзі вельмі даўно навучыліся пісаць на папірусе.

Зараснікі папірусу ўкрывалі балоцістыя нізоўі вялікай ракі Ніл, там, дзе вада даходзіла метровай глыбіні. Тоўстыя трохгранныя бязлістыя сцяблы яго з вялікаю мяцёлкаю ўгары, нібы з распушчанымі, доўгімі — амаль два метры — валасамі, узнімаліся на вышыню ў пяць метраў.

На што толькі не выкарыстоўвалі старажытныя егіпцяне гэтую расліну! Драўніна каранёў была для іх палівам і будаўнічым матэрыялам. Гэтую расліну яны ўжывалі як харч — сырую, гатаваную, печаную. З яе выцiскалі сок. З яе вілі вяроўкі, рабілі начынне, шылі адзенне, плялі кашы, майстравалі лодкі. Але ўвекавечыў сябе папірус тым, што даў чалавецтву першы сапраўдны матэрыял на кнігі. Памяць аб ім і да сёння захавалася ў многіх еўрапейскіх мовах: згадайма беларускае слова „папера", нямецкае — „папір", англійскае — „пэйпа", французскае — „пап'е".

Матэрыял для пісьма з папірусу рабілі так: расліну ссякалі, ніжнюю частку дзялілі на роўныя кавалкі. Іголкаю дзялілі валакно на палоскі як мага шырэйшыя, танчэйшыя і даўжэйшыя. Забраўшы іх залежна ад якасці — шырэйшыя лічыліся лепшымі, — выкладвалі гэтыя палоскі на стол са спецыяльна нахіленаю стальніцаю, сцелючы так, каб іхнія краі заходзілі адзін за адзін. Найлепшыя стужачкі-палоскі атрымліваліся з сярэдняй часткі сцябла. Яны былі і найшырэйшыя, і найдаўжэйшыя.

Пасля на разасланы пласт палосак накладвалі другі, але ўжо ўпоперак. Білі драўляным малатком: ад гэтага пласты танчэлі і шчыльнелі. Потым палівалі нільскай вадою і клалі пад прэс. Пры сціскання з расліны выдзяляўся сок. Ён праклейваў усе валокны — атрымліваўся суцэльны аркуш. Два пласты ў ім так непарыўна злучаліся, што і сёння захавалі сваю трываласць.

Каб на артыманых аркушах можна было пісаць, іх трэба было адпаліраваць. А каб яны лепш паліраваліся ды яшчэ і не ламаліся, бо папірус — даволі крохкі матэрыял, іх праклейвалі спецыяльным клеем. Гэта быў мякіш хлеба, які пракіпаўся ў вадзе і прастаяў суткі.

Пасля ўжо сушылі на сонцы і звычайна пемзаю, ракавінаю ці слановаю косцю гладзілі аркуш да таго часу, аж пакуль яго паверхня не блішчала. Добра выраблены папірус быў гнуткі і спружыністы. І нават праз тысячагоддзі не страціў гэтых якасцей.

Паліравалі зазвычай толькі адзін, верхні, бок аркуша, бо і пісалі толькі на гэтым баку. Папірус празрысты, а таму не асабліва надаецца, каб пісаць на ім і з другога боку. Нават калі выпадкам і трапляецца тэкст, напісаны на адваротным баку папірусу, то гэта абавязкова ўжо другі твор. А, значыць, напісаны ён проста з-за нястачы пісьмовага матэрыялу, а не ад самога спосабу пісаць на абодвух баках.

Затое разлін578оўваць радкі не прыходзілася. Пражылкі верхняга пласта, якія, як памятаеце, клаўся ўпоперак, самі ўтварылі гарызантальныя лініі. Уздоўж іх і пісалі. Размечваць даводзілася толькі калонкі.

Склейваючы такія аркушы, можна было атрымаць памер для якой хочаш даўжыні рукапісу. Склейвалі ж іх звычайна клеем, прыгатаваным з мукі і воцату. Дарэчы, пры склейванні заўсёды сачылі, каб папяровыя пражылкі аркушаў супадалі, а край папярэдняга аркуша заўсёды находзіў на край наступнага — пяро тады пры пісьме не натыкалася на іх берагі.

На першым аркушы не пісалі, бо ён пры карыстанні нішчыўся найхутчэй, таму і прыклейвалі яго адваротным бокам, дзе пражылкі беглі не злева направа, а зверху ўніз.

Склееныя, такія палотнішчы дасягалі часам 39 метраў. Да нашага часу якраз дайшоў адзін такі папірус. Але звычайна яны былі карацейшыя — каля 10 метраў.

Паколькі папірус гнуткі, яго можна было звіваць. Для гэтага ўжываліся драўляныя, рагавыя ці касцяныя валкі.

Так атрымалася кніга-скрутак.

*(працяг будзе)*

**Анатоль Клышка**

## *Вершы Віктара Шведа*

### На ўроку рэлігіі

Зноў настаўнік на занятках
Дзяцей пытае па парадку:
— Ваня, ты сказаць бы мог,
Дзе жыве Ўсявышні Бог?

Ваня кажа: — Пастаянна
Жыве ён у нашай ваннай.
Грукаціць у дзверы тата:
„Божа, ванна зноў занята!"

### Чаму вандруюць на вярблюдах?

Настаўнік запытаў Івана:
— Скажы мне, мілы, чаму ўсюды
Людзі ў пустынных караванах
Вандруюць заўжды на вярблюдах?

— Падказваюць мне ў гэтым веды,
Што праз пясчаныя сумёты
Людзі ўсе на вярблюдах едуць,
Пяску каб не набраць у боты.

**Віктар Шніп**

### Рыгоркава гора

У маленькага Рыгора
З раніцы сягоння гора.
— Што за гора? — дзед спытаў.
— Я мультфільмікі праспаў.—
Адказаў Рыгорка
І заплакаў горка.

# Браніслаў Тарашкевіч

Браніслаў Тарашкевіч быў адным з найбольш вядомых беларускіх палітыкаў II Рэчы Паспалітай, ідэолагам нацыянальнага руху, арганізатарам найбольшай сялянскай партыі ў Еўропе. Быў таксама знакамітым літаратарам, публіцыстам, вучоным.

Нарадзіўся 20 студзеня 1892 года ў Мацюлішках каля Вільні. Бацькі яго, збяднелая беларуская шляхта, працавалі на сваёй зямлі. У 1906 годзе Тарашкевіч пачаў навуку ў віленскай гімназіі. У Вільні сутыкнуўся з беларускім нацыянальным рухам. У рэдакцыі „Нашай нівы", якая была цэнтрам тагдышняга беларускага інтэлектуальнага жыцця, пазнаёміўся з лідэрамі Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1913 годзе паказаліся яго першыя артыкулы на старонках гэтага штотыднёвіка. Браніслаў Тарашкевіч быў ужо тады студэнтам Пецярбургскага універсітэта. Вучыўся гісторыі, філасофіі, класічнай філалогіі, права. У 1918 годзе напісаў першы падручнік беларускай „Граматыкі". Падчас першай сусветнай вайны апынуўся ў цэнтры беларускага палітычнага жыцця. Калі беларусам не ўдалося замацаваць сваё дзяржаўнасці, узніклай 25 сакавіка 1918 года, Тарашкевіч вырашыў змагацца за аўтаномію ў межах Рэчы Паспалітай. Улады Польшчы хацелі аднак, каб беларусы сталі палякамі і не дазвалялі ні на культурную дзейнасць, ні на адукацыю беларускіх дзяцей на роднай мове. Тарашкевіч, будучы паслом польскага сейма, у 1925 годзе пачаў арганізаваць партыю для сацыяльнай і нацыянальнай абароны беларускіх інтарэсаў у Рэчы Паспалітай. Так узнікла Беларуская сялянска-работніцкая грамада. За год дзейнасці згуртавала яна 120 тысяч членаў. Улады Польшчы, занепакоеныя развіццём беларускага руху, у студзені 1927 года ліквідавалі партыю, а яе дзеячаў замкнулі ў турму. У польскіх турмах Тарашкевіч праседзеў да 1933 года. Пасля выехаў жыць у Савецкі Саюз. Расейскія камуністы аднак таксама не цярпелі свядомых беларусаў. У 1937 годзе Тарашкевіч быў арыштаваны, а год пасля замардаваны камуністычнай бяспекай. Акупаваная Бацькаўшчына траціла сваіх найлепшых сыноў. У Менску тым часам будавалі помнікі іх забойцам.

# Міфы старой Беларусі

**11. Дамавік**

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Дамавік, паводле запісу этнографа Раманава, гэта чалавекападобная істота, чорная, пакрытая валасамі. Жыве ён на печы, пад печкаю, пад падлогаю, у хлявах і іншых забудовах, дзе стаіць хатняя жывёліна. У апошнім выпадку дамавы дух завецца Хлеўнікам.

Дамавік спрыяе хатняй гаспадарцы. Але калі яму нешта не падабаецца ў доме, ён стараецца шкодзіць гаспадару: уначы б'е посуд, кідае качаргой, нават спрабуе душыць гаспадара, калі той спіць. У той час у доме не ладзіцца і не вядзецца жывёла. Каб абясшкодзіць Дамавіка, трэба ў першы дзень Каляд ці ў дзень Новага года да абедні застрэліць сароку ці варону і зачапіўшы вяровачкай за горла, павесіць яе ў хляве. Іншыя пякуць у поўню месяца хлеб і ад першага бохана адрэзваюць акраец, соляць яго і ўначы ідуць у хлеў, дзе гаспадар гаворыць: „Дамавік, дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх коней і шкадуй! І я буду цябе любіць і жалаваць!" І кладзецца гэты акраец дзенебудзь пад страхою.

*(працяг будзе)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 48

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Kisiel owsiany / Pograniczе | ▼ | Wieża / Mąż | ▼ | Żar | Gatunek w literaturze | ▼ |
| ▶ | | ▼ | | ▼ | | |
| | | | | | | |
| Róża ▶ | | | | |  | |
| Żart | | ▶ | | | | |

1. Чырвоная ў гусі або бусла
2. Круглае як дыня і гарачае як агонь
3. Драпежнік сямейства кашэчых
4. Паўднёвы фрукт
5. Любяць іх слухаць не толькі дзеці
6. Узнам або Волін
7. Лік з двума нулямі
8. Сын таты
9. Ціхі або Атлантычны

## *Крыжаванка Касі Леанюк* ☞

**Адказ на крыжаванку н-р 44:** соус, свіння, тын, заняпад, пікет, лак, парк, лістапад, вынік, сіняк, сон, п'еса, фундатар, сярдзюк.

Узнагароды — запісныя кніжкі выйгралі: **Юліта Гайко і Павел Белаказовіч** з Бельска-Падляшскага.



**Талон „Зоркі" № 48 30.11.1997**

**12 лістапада г.г. у зале Факультэта педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку адбыўся вечар, прысвечаны паэзіі Віктара Шведа.**

# Віктар Швед — паэтычны і музычны

Калі пасля сустрэчы аўтар зайшоў у нашу рэдакцыю, усклікнуў: „Ну, цяпер дык ты не напішаш, што прыйшлі адны старыя!"

А як жа, Віктар, я магла б так напісаць, калі на сустрэчы было поўна моладзі, ды і не толькі універсітэцкай!.. Нізка кланяюся ім усім, але асабліва галоўнай арганізатарцы мгр Яанне Казак, асістэнтцы гэтага факультэта, ды выканаўцам вершаў і песень.

Быў гэта нязвыклы вечар. У мяне было такое ўражанне, што гэтыя юнакі і дзяўчаты аддалі Шведавай паэзіі часцінку свайго маладога, шчырага сэрца. Іншая справа, што ім і козыр у рукі, бо Віктаравы вершы не толькі лёгка дэкламуюцца, але і добра спяваюцца.

Моладзь выкарыстала гэта. Самі напісалі музыку на словы васьмі вершаў Віктара Шведа. Марэк Хомка, студэнт першага курса культурнаасветнай педагогікі, апрацаваў музычную праграму вечара, напісаў музыку да пяці вершаў і песню-неспадзеўку, прысвечаную аўтару „Wierszy wybranych". Другі студэнт педагогікі Марыюш Пятровіч напісаў музыку да трох вершаў. Хлопцы самі і спявалі гэтыя песні, акампаніруючы сабе на гітары, а такса- ма яшчэ спявала з імі сола Яанна Казак (цудоўна!)

Усе вершы, якія чыталі студэнты II курса ранняшкольнай педагогікі Марта Лянкевіч, Кася Жукоўская, Кшыштаф Локець і Пётр Новік, былі ўзяты з нядаўна выдадзенай кніжкі „Wiersze wybrane", а сам аўтар прачытаў па-беларуску чатыры вершы з патрыятычнага цыкла: „Асімілятыя", „Я нарадзіўся беларусам", „Дзесяць запаведзяў" і — на заканчэнне — як бы праграмны: „Мае вершы".

Чатыры дзіцячыя вершы бацькі (пакуль яшчэ па-польску, хаця ўжо пачала вывучаць беларускую мову ў першым класе) прачытала малая Наталька Швед.

На вечары быў прыўзняты настрой. Гарэлі свечкі. Присутнічалі дэкан Ежы Нікітаровіч, які шмат дапамог у падрыхтоўцы вечара, і іншыя прафесары. Быў старшыня Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі, былі Ян Чыквін і Яўген Чыквін, пра якіх мо і не мушу інфармаваць чытачоў, бо яны і так іх добра ведаюць: прафесар Ян Чыквін — старшыня Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Яўген Чыквін — журналіст, шматгадовы пасол ды... наш друкар („Orthdruk"). Быў яшчэ і Пятро Крук, старшыня БДА, ды іншыя прыхільнікі паэзіі Віктара Шведа.



Яанна Казак — уся ў белым — спрытна вяла вечар, умела набліжаючы прысутным вобраз паэта, чалавека, перад якім адкрыўся свет новых магчымасцей, але які ніколі не забыўся пра родную бацькоўскую хату. Нават і дэвіз вечара быў такі:

*A moje życie to powroty*
*Tam, gdzie mój lud,*
*gdzie dom rodzinny...*

Вось бачыш, Віктар, як добра, што ты вярнуўся ў Беласток. Табе тут наладжваюць такія цудоўны вечары... Сямігадовая дачушка Наталька чытае вершы, жонка Валянціна робіць здымкі...

А пасля была дыскусія і студэнты запыталіся: „Ці ёсць новая змена паэтаў?" Ян Чыквін не патрапіў даць канкрэтны адказ і ўсе зразумелі, што іх няма. Пятро Крук не даравў: ёсць, ён нават іх ведае, толькі ніхто не хоча імі заняцца!

У зале, дзе адбываўся вечар, было вельмі цесна, аднак жа галоўным чынам таму, што ўся яна застаўлена была вялізнымі сталамі (на іх у гэты дзень стаялі свечкі і салодкі пачастунак). Хто прыйшоў раней, мог сесці і нават нешта скаштаваць. Хто прыйшоў пазней — стаяў у зале ці — лепш — у перадпакойчыку, дзе было не так горача.

Поўна ты, Віктар, не спадзяваўся, што аж столькі нас прыйдзе?!

**Ада Чачуга**

*Фота Валянціны Швед*

**— Даруй, Максіме, што я вазьму лісточак з твайго вянка, каб у суп укінуць! — Анатоль Сыс адшчыкнуў сухі лісток ад галінкі, заткнёнай за партрэт Багдановіча. — Есці ж трэба і паэту.**

# Выйграць з Прэзідэнтам

У мінскім Доме літаратара ціха ў канцы кастрычніка. Кафэ не працуе, спісваюць усе падносы, шклянкі і печкі. Усё спісалі. Толькі „Першацвет" святкуе, ды і не ўсё скажаш нават на юбілеі. Працаўнікі ў настроі трывожным, у некаторых вочы дзіўна блішчаць. Безнадзея. Не кожны хоча гаварыць, не кожнаму хіба і можна, — невядома, на чым стаіш у гэтай Беларусі.

Адзін з работнікаў літаратуры, які ў судзе не стрываў і запытаўся: „Ці адразу мяне возьмеце на Валадарку, ці дазволіце скочыць дахаты па сухары?!" — і сёння не ўсё скажа, а калі і скажа, не магу гэта паўтарыць...

**— Страцілі мы**

і Дом літаратара, і паліклініку. У ліпені прыйшло распараджэнне Прэзідэнта Беларусі, пад якім пастаўлена пячатка адміністрацыі прэзідэнта, у якім паведамлялася, што ў шэрагу забудоў у Мінску Дом літаратара (не названы, а толькі напісана «будыніна па Фрунзе, 5») павінен у двухмесячны тэрмін быць перададзены на баланс кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Прэамбула там такая, па-руску: „у мэтах удасканалення валодання гэтымі маёмасцямі і іх захаванасцю, у мэтах паляпшэння ўмоў для адміністрацыйных стурктур" (не прэзідэнцкіх, а ўсялякіх)... Не пагадзіліся мы з такім адназначным рашэннем. Звярнуліся

**ў суд.**

Ды не маглі прадставіць дакументаў, якія прама сведчылі б пра тое, што будынак Дома літаратара будаваўся толькі за кошт сродкаў Саюза пісьменнікаў, хаця б таму, што проста іх у прыродзе ўжо няма. Маюць яны свой тэрмін захоўвання, а пасля распаду СССР шмат чаго знайсці немагчыма. Атрымалі мы толькі такую даведку з Маскоўскага міжнароднага літаратурнага фонду, дзе засведчана, што так, грошы на будаўніцтва выдзяляліся Літфондам СССР праз дзяржплан СССР і праз дзяржплан БССР на будаўніцтва Дома літаратара. Такое засведчанне на сённяшні дзень не з'ўляецца юрыдычным дакументам. Патрабавалі ад нас канкрэтна: дакажыце, што фінансаванне пабудовы гэтага дома фінансаваў Саюз пісьменнікаў. У нас яшчэ ёсць, і ў іх таксама, такія дакументы: распараджэнне Саўміна аб выдзяленні СП сродкаў (рознымі долямі — па 200, па 300 тысяч — па тым часе гэта вялікія грошы), усяго разам 1 млн. 490 тысяч рублёў, дзе сказана дакладна: „Выделить Союзу писателей БССР" такую суму грошай на будаўніцтва Дома літаратара. Мы далей выходзілі з таго, што, згодна з нашым статутам, усе сродкі, якія паступалі ў СП, кім бы яны не выдзяляліся, — ці дзяржаўнымі структурамі, ці грамадскімі арганізацыямі, ці нават прыватнымі асобамі — яны станавіліся аўтаматычна сродкамі Саюза пісьменнікаў. Гэтак запісана ў нашым статуце, аднак з гэтым не пагадзіліся беларускія юрысты, якія спасылаліся

**па канстытуцыю 1936**

года, згодна з якой не было ніякай іншай уласнасці, а толькі сацыялістычная і кааператыўна-калгасная. Значыць, не магло быць уласнасці прафсаюза — Саюза пісьменнікаў на гэты дом. І згодна з канстытуцыяй 1936 года (хоць колькі іх было пасля!) гэты дом павінен быць перададзены на баланс кіраўніцтва справамі прэзідэнта — аб чым нам і зачыталі вердыкт. Гэта нас каштавала на пачатку, як пачыналася справа, 42 мільёны рублёў дзяржпошліны, але „предъявили претензии", што мы мала заплацілі, і трэба даплаціць яшчэ 12 мільёнаў. Карацей кажучы, без усялякай прэамбулы на трэцім па ліку пасяджэнні Вышэйшага гаспадарчага суда было сказана: „пункт 1. Иск об принадлежности ДЛ **отклонить** как необоснованный" ды даплаціць яшчэ дзяржпошліну.

Што будзе далей, ведае толькі Гасподзь Бог і наш Прэзідэнт.

Хоць мелі мы два месяцы на афармленне спраў, грошы з будынка ўжо пасля месяца пачалі ісці на рахунак кіраўніцтва справамі прэзідэнта — з 1 жніўня. Дом, аднак, да сёння (канец кастрычніка 1997 г.) ёсць на балансе СП, ды гаспадараць тут іншыя, якія плацяць тут дзейнічаць, нягледзячы на тое, што мы папярэджвалі, што будзем адклікацца ў суд, будзем

**шукаць паратунку.**

Было прапанавана прэзідыумам Саюза пісьменнікаў пікетаванне Дома літаратара. Было яно, праўда, не вельмі актыўнае. Былі невялікія паведамленні ў друку, у асноўным у незалежным. Усе апошнія сродкі масавай інфармацыі не любяць улазіць у такія пытанні.

Дом літаратара гэта была адзіная крыніца, якая дазваляла хоць трошкі памагчы беларускім пісьменнікам у іх жабрачым лёсе — ці то даць матэрыяльную дапамогу ў выглядзе 200—300 тысяч, памагчы сям'і пахаваць пісьменніка ці аплаціць якую творчую камандзіроўку. Сёння мы такіх сродкаў пазбаўлены. Быў ён і месцам сустрэч творчай інтэлігенцыі. Настрой цяжкі не столькі ад тае бязвыхаднасці, што вось СП ужо памірае, дрыгае нагамі ў сутаргах. Папершае, гэта можа прывесці да расколу СП. Ёсць пісьменнікі, якія сёння адкрыта на баку прэзідэнта, ёсць пісьменнікі, якія ў апазіцыі да яго ці ўвогуле да сённяшняй палітычна-грамадскай сітуацыі. Каму на руку гэты раскол? Ёсць у Беларусі Канфедэрацыя творчых саюзаў Беларусі пад кіраўніцтвам артыста Яроменкі, і калі толькі варта гукнуць: „Хлопцы, хадзіце да нас, мы вам тут створым належныя ўмовы", то 3/4 нашага Саюза пабяжыць туды, як той Вярхоўны Савет. Таму на руку, хто задумаў гэта. Будзе ён мець свой кішэнны Саюз пісьменнікаў. Навошта яму трымаць у апазіцыі творчую інтэлігенцыю? Ханок піша песні яму прысвечаныя, Сакалоўскі будзе пісаць оды. Гэта ж лепш чым трымаць пад вокам Быкава, які можа выказацца не вельмі ласкава..."

...Паставяць на варце чалавека ў форме, і ён будзе рашаць, каго ўпусціць у дом творчых людзей.

**Міра Лукша**

# Крынкаўская панарама

Палова лістапада выпала мне нейкай макароннай. Напачатак быў канцэрт італьянскай піяністкі Манікі Кампаны, наканец італьянскія *gioccatori* абыгралі зборную расейскіх футбалістаў у матчы за сусветнае першынства, а ўсярэдзіне — ядром усяго — была прамоцыя выдадзенай у Італіі кнігі Сакрата Яговіча „Miniature" спалучаная з так сама азагалоўленым вернісажам фотавыстаўкі Лявона Тарасэвіча. Дарэчы, спомненая кніга выйшла ў свет дзякуючы галоўным чынам заходам спадара Лявона; ён прачытаў некалькі Яновічавых мініяцюр спадарыні Габрыелі Кардаца з венецкай Галерэі дэль Каваліна, калі яна фільмавала рэпартаж пра ягоныя карціны. Мініяцюры тыя выклікалі ў спадарыні Габрыелі вялікае ўражанне, бо іх атмасфера супадала з яе фільмам: тое, што ён выказваў словамі, было тым, што яна хацела паказаць у фільме. Ну і дала яна ход выдавецкаму працэсу і ў верасні г.г. кніга ўбачыла свет.

Сакрат Яновіч расцэньвае, што „Miniature" — гэта найбольш элегантна выдадзеная з усіх яго кніг. Двухмоўная — змешчана там дваццаць пяць мініяцюр па-італьянску і па-англійску. Уражвае галоўным чынам не мастацкае афармленне аўтарства — вядома ж — Лявона Тарасэвіча, якому „вельмі хацелася гэта зрабіць", як сказаў сам Яновіч. На вокладцы аўтар у выглядзе, як таксама сам сказаў, *solo italiano mafioso*. А за вокладкаю, на некалькіх старонках, — фотапанарама наваколля *cittadina di Krynki*, быццам уводзіны на зямлю, на якой рос аўтар. Выдатная ацэнка кнігі аўтарам, гэта таксама і выследак таго, што напісана яна не на зразумелай „славянскай чэрні", ад якой аўтару млосна, але на мовах яму чужых. Я ж тутака, традыцыйна ўжо мне, хачу паказаць лыжку дзёгацю ў гэтай бочцы мёду. Хаця я ніколі не вывучаў італьянскай мовы, усё ж такі маё хібалюбнае вока тыя хібіны ўбачыла. Аўтар уводнага слова Беларускае грамадска-культурнае таварыства называе *Associazione Sociale e Culturale della Bielorussia*, што абазначае „грамадскае і культурнае таварыства Беларусі" і экзатычнага італьянскага чытача ўводзіць не туды, куды трэба; *Unione Democratica Bielorussa* — гэта ўжо карэктная назва БДА. Шкада, што побач гэтых шапак-прывідак няма ні слова пра звычайных *беларусападобенцаў*. І яшчэ пару меншых хібаў, але ўсе гэтыя мае прычэпкі — гэта марнасць.

Італія, гэта светач сусветнай культуры, і задума паказаць там творчасць пісьменніка з усходнееўрапейскай правінцыі магла б паказацца вывазам дроў у лес. Аднак, як сказала спадарыня Кардаца, кніга „Miniature" выклікае сярод італьянскіх чытачоў вялікае ўражанне. Гэта доказ, што мастацтва не знае граніц. Спадарыню Кардаца цешыць тое, што творы Яновіча могуць чытаць не толькі ў Польшчы і Італіі. Магчыма, што і англамоўны пераклад мае паслужыць таму, каб з нашым аўтарам пазнаёміліся і *mafiosi norteamericani*. І за гэта — чарговае слова прызнання Лявону Тарасэвічу.

А цяпер ужо толькі пра яго. Ягоны вернісаж — дух займае! Ён напачатку скромненька сказаў, што здымкі выкананы толькі звычайным малафарматным фотаапаратам. Але калі паглядзець на іх, перад гледачом адкрываецца незвычайная карціна. Здымкі — кадр за кадрам — гэта ваколкрынкаўская кругавая панарама. Калі б я стаў на той узгорак, з якога яны выконваліся, нічога я асаблівага не ўбачыў бы; толькі палі, зараснікі і аддаленыя хаты. Але ў мастака гарызонт, гэта чароўная пража спрадзеная з Неба і Зямлі, і на толькі адной фотаплёнцы ўзнік сапраўдны шэдэўр. Словам гэтага не апісаць, але ж і нельга пра такое змаўчаць. Першы кадр — загаловак „Miniature", другі — цалкам засветлены: *la terra era una cosa deserta e vacua* (Быццё; 1:2). На чацвёртым ужо сакавітая зелень: *La terra adunque produsse erba minuta, erbe che fanno seme, secondo le loro specie, ed alberi che portano frutto, il cui seme è in esso, secondo le loro specie* (Быццё; 1:12). І далей — кампактныя кадры з полем. — На адным з далейшых — асаблівы змест. На пярэднім плане яго — могілкавы тын, а на другім плане — геркаўскія *блёкі* ў чыстым полі. Выглядаюць яны ў тым месцы, як здзек над прыгажосцю Неба і Зямлі. І пастаўлены яны пэўна для тых *асобеняў*, што з вёскі ўцяклі на *паркеты*, а духовасць у іх мо ў стане вегетацыі, мо ў стане гібернацыі, а мо і ў стане нябыту; *блёкі* тыя — быццам чарговы крыж для згаданых могілак. Далейшыя кадры кампактныя, на іх на аддаленым плане Крынкі. Завяршае гэты Тарасэвічаў акт здымак Сакрата Яновіча — ён вяршынай таго, што дала Крынкаўская зямля. Быццам тут Тарасэвіч гаварыў Яновічу: *Fruttate, e moltiplicate, ed empiete la terra, e rendetevela soggetta, e signoreggiate sopra i pesci del mare, e sopra gli uccelli del cielo, e sopra ogni bestia che cammina sopra la terra* (Быццё; 1:28).

І мне хацелася б дадаць да гэтага ў адрас нашых сцяганосных маэстра: і праслаўляйце нашу Малую Айчыну ва ўсім свеце.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Інтэнсіўныя працы ў Беларускім музеі

— Думаем завяршыць пабудову музея да канца 1998 года, — заяўляе Ян Хіліманюк, намеснік старшыні Грамадскага камітэта пабудовы музея і асяродка беларускай культуры. — Хаця, пакуль што, справа рэарганізацыі музея яшчэ не вырашана. Старшыня Грамадскага камітэта, спадар Канстанцін Майсеня цяпер хворы. Вярнуўшыся з бальніцы, лечыцца і адпачывае. Хаця ў мяне іншая праца, я вымушаны замяшчаць старшыню і наглядаць за будаўнічымі працамі.

Апошнім часам стала намнога больш працаўнікоў у будынку Ц Беларускага музея ў Гайнаўцы. Гэта рабочыя Бельска-падляшскага будаўнічага прадпрыемства, якое вядзе пабудову. Інтэнсіўна вядуцца завяршальныя працы. Цяпер зроблены там цэнтральнае ацяпленне, электраўстаноўка і кладуцца тынкі, а ў хуткім часе пачнецца класціся падлога. Зрух заўважальны тым больш, што раней работы вельмі замаруджваліся. Паскарэнне прац выклікала ў дзеячаў Грамадскага камітэта пабудовы музея аптымізм на будучыню. Вядзецца дыскусія наконт кшталту будучай працы музея і яго культурнай дзейнасці.

— Хочам звярнуцца да грамадства, каб захоўвала і збірала экспанаты для музея, — гаворыць Ян Хіліманюк. — Кожная старая прылада працы, вопратка ці дзіцячая цацка будуць нам вельмі патрэбныя. Будзем, таксама, намагацца, каб адлюстроўваць у музеі працэсы развіцця розных веравызнанняў на нашай тэрыторыі, звяртаючы ўвагу на дамінуючае праваслаўе. Плануем паставіць каля музея міні-скансэн. Можна было б перавезці на музейны панадворак нейкую хатку ці каплічку, якія адлюстроўвалі б працэсы ў архітэктуры нашага рэгіёна.

Усе планы спадара Хіліманюка звязаны з будынкам Ц, у якім маюць быць выставачныя залы, менавіта там, дзе цяпер вядуцца працы. Пакуль што, будынак Б арандуе суполка Унібуд, якая адкрыла ў ім краму з будаўнічымі матэрыяламі. Прадбачваюцца там розныя майстэрні для кансервацыі экспанатаў. Для культурнай дзейнасці музея застаецца будынак А, якога пабудова ўжо амаль закончана. Пры падтрымцы гарадскога самаўрада адчынілася там кіно. У горадзе даўно ўжо не было кінатэатра і гайнаўяне адвучыліся крыху карыстацца такой установай. Хаця кіназала адчынена па пятніцах, суботах і нядзелях, а фільмы ідуць у 17.00, 19.00, прысутнасць не вельмі вялікая. Можа гэта, аднак, і справа фільмаў, бо бывае, што трэба даваць дадатковыя сеансы ў 15.00 і 21.00. Гонар жыхароў рэгіёна адстойваюць вучні пачатковых і сярэдніх школ, якія заказваюць адукацыйныя фільмы. Былі ўжо вучні з Чыжоў, Навакорніна, гайнаўскіх пачатковых і сярэдніх школ. Быў і беларускі фільм "Як камісія пад кіраўніцтвам Трусава апрацоўвала сімвалы Пагоні", якія глядзелі ліцэісты беларускіх ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. У архіве музея тры іншыя беларускія фільмы з савецкімі тэхнічнымі навінкамі. Пра галерэю, якая знаходзіцца ў памяшканні будучай бібліятэкі, я ўжо пісаў пры нагодзе выстаўкі Віктара Кабаца. У падвале будынка А працуе бар „Белы сон", дзе могуць рыхтавацца да сну аматары смачнага піва ці віна. Зверху ж гасцінныя пакойчыкі. На першым паверсе размешчаны пакойчыкі, у якіх магла б весціся арганізацыйная і культурна-навуковая праца.

— Патрэбная будзе навуковая моўная, этнаграфічная і гістарычная распрацоўка экспанатаў і працэсаў, якія адбываліся на польска-беларускім памежжы, — кажа Ян Хіліманюк. — Культурная дзейнасць у музеі, гэта і галерэя, і бібліятэка, і беларускамоўныя часопісы.

Аптымізм Яна Хіліманюка вельмі вялікі. Хаця будаўнічыя працы пацвярджаюць планы Грамадскага камітэта пабудовы музея, дык цяжка прадбачыць, што будзе ў наступным годзе. Перад усім грошы з дзяржаўнага бюджэту вырашаць будучыню музея. Прыхільнікі пагаднення з ваяводам звяртаюць увагу на магчымасць хуткага заканчэння пабудовы музея і на фінансавыя сродкі, якія дазволяць весці музейную дзейнасць. Праціўнікі такой ідэі падкрэсліваюць, што пагадненне з дзяржаўнымі структурамі паўплывае адмоўна на беларускасць музея. Чакайма грошай, а іншыя вырашаць усё за нас.

**Аляксей Мароз**

# Праваслаўны юбілей у Ольштыне

14 кастрычніка г.г. споўнілася пяцьдзесят гадоў ад заснавання прыхода Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў Ольштыне. У гэты дзень, у аўторак, у царкву пры алеі Войска Польскага прыбылі многія вернікі з горада і наваколля. Урачыстае набажэнства ўзначаліў беластоцка-гданьскі ардынарый уладыка Сава.

Пра пачаткі прыхода расказаў мне Тадэўш Юндзіл, стараста і адзін з заснавальнікаў прыхода:

— Я сам паходжу з мешанай сям'і: мой бацька быў католікам, а маці — праваслаўнаю. Мяне ў лютым 1945 года, калі мне было васемнаццаць гадоў, арыштавала НКУС, і я чатыры гады правёў у савецкіх лагерах Саратава, Кутаісі і Баровічаў; вярнуўся адтуль у 1949-м. Для заснавання прыхода трэба было сабраць пятнаццаць подпісаў, і тады толькі ўлады горада прызначылі нам каплічку на былых евангеліцкіх могілках, якая нам служыць і па сённяшні дзень. Па аснашчэнне храма вернікі ездзілі ў пакінутыя цэрквы Люблінішчыны і Холмшчыны. Да 1950 года наш прыход не меў свайго настаяцеля і адпраўляць службы прыязджалі святары з Гданьска, Бранева і Кентшына. Першым нашым настаяцелем стаў мітрат Пятро Радкевіч, які служыў да 1963 года. Пасля яго на прыход стаў Анатолій Лаўрашук, які служыў у нас да 1981 года, і ад таго часу аж па сённяшні дзень нашым настаяцелем з'яўляецца Аляксандр Шаломаў, які год таму адзначаў 25-годдзе пастырскай паслугі.

З нагоды юбілею былі медалі Святой Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны ад Святога Сінода Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якія ўручаў уладыка Сава. Медаль першай ступені атрымаў Пакроўскі прыход за працу на славу Царквы, медаль другой ступені атрымаў царкоўны стараста Тадэўш Юндзіл, а медаль трэцяй ступені атрымаў царкоўны хор, які ад сямі гадоў вядзе псаломшчык Іван Палавянюк, мой зямляк родам з Бельшчыны. Прыехаў ён у Ольштын у 1983-м годзе на навуку ў Інстытут музычнага выхавання Вышэйшай педагагічнай школы. Тут ажаніўся, абараніў доктарскую дысертацыю і цяпер працуе ад'юнктам у тым жа інстытуце, дзе вучыць кандыдатаў у дырыжоры.

— Пры вучэльні вяду хор „Bel canto". — кажа Іван Палавянюк. — Выконваем тыповую музыку a capella ад сярэднявяковага грыгарыянскага харала праз рэнесансную паліфанію па сучасныя кампазіцыі; у рэпертуары маем і царкоўную музыку аўтарства Чайкоўскага, Архангельскага, Рахманінава і Бартнянскага. Сёлета наш хор стаў лаўрэатам Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Хор атрымаў там узнагароду за найлепшае выкананне сучаснай музыкі, а яго дырыжор Іван Палавянюк — індывідуальную ўзнагароду. Вядзе ён і прыхадскі хор з дванаццаці чалавек, а ў 50-гадовай гісторыі прыхода з'яўляецца ён ужо шостым псаломшчыкам.

**Андрэй Гаўрылюк**

# На шляху да экуменіі

У пачатку лістапада давялося мне падарожнічаць па Беластоку на гарадскім транспарце. Еxаў я аўтобусам нумар 5 з квартала Дзесяціны на пасёлак Пяста. На першым прыпынку ў аўтобус увайшоў малады каталіцкі ксёндз, відаць, навучэнец духоўнай семінарыі. На вуліцы Гаевай даселіся дзве манашкі. Калі аўтобус праязджаў ля касцёла св. Казіміра, значная частка пасажыраў і згаданыя духоўныя асобы перахрысціліся, а мужчыны прыпаднялі галаўныя ўборы. Далей аўтобус накіраваўся на вуліцу Антанюкоўскую, на якой узвышаецца грандыёзная царква Святога Духа. Мінаючы праваслаўны храм пасажыры, у тым ліку і ксёндз з манашкамі, ніяк не адрэагавалі. Неўзабаве аўтобус апынуўся ля касцёла св. Роха і тут зноў паўтарылася тая ж самая сцэна, што пры касцёле св. Казіміра. Але ўжо пры Свята-Мікалаеўскім саборы на вуліцы Ліпавай ніхто не заўважыў прысутнасці храма. На прыпынку ля Ратушы ксёндз і манашкі выйшлі ды падаліся ў напрамку Фарнага касцёла.

Ва ўсім гэтым здзівіла мяне стаўленне каталіцкіх духоўных асоб да праваслаўных храмаў. Хто як хто, але яны павінны добра ведаць, што праваслаўныя і каталікі — гэта хрысціяне, якія вераць у аднаго Бога, у адну Святую Тройцу і свясцаць Крыжа Гасподняга. Дык чаму ж гэтыя духоўныя асобы, замест даваць прыклад простым людзям, не шануюць агульнахрысціянскі сімвал — Святы Крыж — на праваслаўных цэрквах? Ці такім мае быць каталіцкі шлях да экуменіі — аб'яднання ўсяго хрысціянства, якое прапаведуе папа Ян Павел II? **Ю. П.**

Ліст у рэдакцыю

# У нас адзін абман

Я, чытачка „Нівы", не дзівуюся, што нашы людзі ёсць і будуць на канцы, бо яны любяць лёгка пажыць і насміхацца з таго, каму цяжка; ніхто за ім не ўступіцца і праўды яму не скажа. У нашай краіне вельмі добра зладзеям і ігунам, а таго, хто жыве спакойна і сумленна, найбольш б'юць і плакаць не даюць. Дам я на гэта прыклад са свайго жыцця: мая мама была ўдавою і нас, двое дзяцей, гадавала не маючы амаль грошай, хаця цяжка працавала. Суседзі забралі нам больш за палову пляца, не шкадуючы ні нас малых, ні нашай мамы. І на тым пляцы, не маючы ні дазволу, ні нават права ўласнасці, будавалі што ім заманілася, а гміна ім яшчэ дапамагала. А калі я пачала на сваім пляцы будавацца, то мне хацелі і гэты кавалак забраць. Я хацела вярнуць сабе мой бацькоўскі пляц, але гміна напалохала маіх сведкаў карамі — і зрабілі гэта свае людзі ў гміне. Зладзеям дапамагалі і па-за маімі плячыма рабілі ўсё, каб я, адзінокая жанчына, да нічога не дабілася. А суседзі гародзяць платы як хочуць і маюць права багацець на чужых слёзах. Трымаюць сабак, якія брэшуць цэлымі начамі, і яны, гэтыя свае людзі, думаюць толькі пра ўласнае дабро. Усе вяртаюць свае маёмасці, а я не магу забраць сваю бацькаўшчыну, таму што ў нас адзін абман. Беларусь імкнецца да Расіі, там будуць прыяцелі. Мая бабуля была ў бежанстве і расказвала, што там лепшыя і справядлівыя людзі.

**Люба Аляксюк**
**Белавежа**

# Мая Бельшчына

Калі заязджаю ў Відава, тады толькі ўсведамляю сабе, што я страціў. Калі зайду ў Грабіну, тую цудоўную часціну прыроды, дзе валуны і дубы расказваюць пра Белую Даму, тады адкрываю перад імі сваю душу і не раз заплачу, што Бог мяне саслаў на муку сярод чужых. Колькі разоў успамінаю, як з інж. Барыславам Рудкоўскім хадзілі мы па ўрочышчах Грабіна, Пятраны, Баравіска з крынічкамі ў ягуштоўскім лесе, якія наносілі на карту спякотным летам 1986 года. Успамінаю свае першыя гады, калі вучыўся ў Бельску і хлапчуком перабягаў вуліцы і закавулкі горада, так мне сёння блізкія. Ціхі тады горад налічваў каля сямі тысяч жыхароў, якія затрымоўваліся на тратуарах і гутарылі па-беларуску і па-польску; горад купцоў і рамеснікаў, дзе кожны жыў па-свойму і дзе час адмерваў вялікі гадзіннік на ратушы, а па святах набажэнствы ў чатырох цэрквах і двух касцёлах. Па чацвяргах чуваць было стукат конскіх капытоў па гарадской маставой. Цяпер яго ўжо не чуваць, бо няма ўжо коней, якія калісь цягнулі вазы на кірмаш і брычкі са шчаслівымі людзьмі. Няма і старых дамоў з крамамі ў іх, дзе ў дзвярах віселі званочкі, якія званілі калі прыходзіў пакупнік. Цяпер толькі нікелевая бяздушная гладзь ды халодныя і сумныя мармуры. І мае сябры, якія патанаюць у гарэлцы і піве. І калі пакідаю свае родныя мясціны, цяжка робіцца на сэрцы.

Да сустрэчы праз год, маё роднае Падляшша!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Медалі за шматгадовае шлюбнае жыццё

У першай дэкадзе лістапада гэтага года ў Гарадскім упраўленні ў Бельску-Падляшскім уручылі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеныя прэзідэнтам РП для 48 пар з горада і гміны Бельск-Падляшскі, між іншым, з вёсак Кожына, Крывая, Агароднікі, Арэхавічы, Пасынкі, Піліпкі, Парцава, Пранявічы, Відава і Райск.

Медалі ўручылі: дырэктар Аддзела грамадзянскіх спраў Ваяводскай управы Андрэй Гаўкоўскі, бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк і войт гміны Юры Ігнацюк.

Пасля афіцыяльнай часткі шаноўныя юбіляры сустрэліся за келіхам шампанскага, тортам, кофе і чаем з членамі сем'яў — дзецьмі, унукамі і праўнукамі. Былі зычанні доўгіх гадоў жыцця, добрага здароўя і многа шчасця ад прадстаўнікоў улад, а таксама ад радні. Былі кветкі і падарункі.

У мастацкай частцы выступіў гурт „Падляшскія зязюлі" з Бельска-Падляшскага.

**(яц)**

# Так робіш, як удаецца

**Непадалёк Рыгораўцаў у чыстым полі стаіць адзінока драўляны домік. Акружаны ён дрэвамі так шчыльна, што нават у летні сонечны дзень на панадворку адчуваеш сябе бы на змярканні. Хаця да вёскі ўсяго пару соцень метраў, няма тут электраэнергіі. У такіх умовах жыве і адзінока гаспадарыць 87-гадовы Мікалай ВАСІЛЮК.**

— Нарадзіўся я ў Рыгораўцах. Калі мне было пяць гадоў, наша сям'я (маці Анісія, старэйшыя сёстры Ганна і Марыя ды малодшы брат Рыгор) падалася ў 1915 годзе ў бежанства, аж на Казаччыну. Людзі прымалі нас там сардэчна і жылося нам добра. Бацька Аксенцій служыў у той час у рускім войску. Пасля вайны знайшоў ён нас у Расіі і ў Польшчу вярнуліся мы разам.

У школу ў Рыгораўцах хадзіў я толькі адзін год — восень і зіму. Настаўніцай была пані з Францыі. Тады жылі мы ў іншым месцы — на калёніі. У 1930 годзе ажаніўся я з Насцяй з Чахоў-Заболотных. Пры саветах прызвалі мяне ў армію, але толькі паспелі мы даехаць у Кляшчэлі, а там ужо былі немцы. Вярнуўся я дамоў. Калі ў 1944 годзе немцы ўцякалі назад, грабілі харчы, а сялян застаўлялі даваць падводы. Мне прыйшлося даехаць з імі аж да Цеханоўца.

Ужо 15 гадоў жыву і працую адзін. Жонка памерла, а дзеці выехалі адсюль. Жыву пры газавай лямпе. Трымаю адпаведны запас газы. Калі жыла жонка, планавалі мы правесці электраток з вёскі, але дзеці не схацелі. Часам падключаю аўтамабільны акумулятар. Час ад часу слухаю радыёперадачы — у мяне ёсць радыёпрыёмнік на батарэйкі. Вару ежу сабе і сабаку „Каўказу". Марыся Куродым, якая по-



бач мае сенажаць, прыносіць мне хлеб. А як я захварэю, то вылечыла мяне „бабка" з Орлі.

Мае сыны — Павел і Коля — жывуць у Беластоку і апошнім часам амаль і не прыязджаюць. У мяне ёсць трое ўнукаў. Я згодны перапісаць зямлю, але дзеці не хочуць, баяцца падаткаў. І такім чынам да сённяшняга дня сам працую на 18 гектарах. Прыбытку з майго гаспадарання няма. Яшчэ некалькі гадоў таму трымаў я свіней і кароў, а цяпер засталося толькі двое коней, дзве кbadrowy і цяля. А сем гадоў таму здарылася няшчасце — пальцы правай рукі папалі ў малатарню... Цяжка адзінокаму. Так робіш, як удаецца...

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Новае ў Мельніцкай гміне

Гміна Мельнік ёсць найбольш высунутай на поўдзень Беласточчыны і знаходзіцца ў сярэдзіне гістарычнага Падляшша. Гэта тыповая сельскагаспадарчая гміна, але яе эканамічныя паказчыкі не з'яўляюцца высокімі.

Сам Мельнік, у якім зараз пражывае каля тысячы асоб, з'яўляецца турыстычнай мясцовасцю. Мноства турыстаў прыцягваюць рака Буг і даволі вялікія лясныя комплексы. У мінулым годзе ў Мельнік правялі ды падключылі газ.

У Мельніцкай гміне шпаркімі тэмпамі ідзе тэлефанізацыя. У бягучым годзе тэлефоны атрымалі жыхары Такароў, Вілінава і Вайкава. А сёлета вада з кранаў папліла ў Вілінаве і Такарах. Гмінны ўлады намераны адрамантаваць за свае сродкі некаторыя ваяводскія дарогі на сваёй тэрыторыі. Пяць гадоў чакае рамонту дарога з Мельніка ў Грабарку цераз Радзівілаўку.

Як вядома, Мельнік у свой час быў горадам. Гарадскія правы страціў у пачатку XX стагоддзя. Зараз гмінныя ўлады робяць намаганні дзеля таго, каб іх вярнуць. Вось толькі закончаць пабудову водапровада і іншыя неабходныя інвестыцыі. **(яц)**

# І каму на злосць зрабілі?

У Беластоку на Дайлідах ёсць невялічкая вулічка Яскулча, якая ў час дажджоў замяняецца ў дрыгвяністае балота (чытай публікацыю „Ці гэта ў Беластоку?", „Ніва" н-р 19 ад 12 мая 1996 года).

У кастрычніку г.г. гарадскія ўлады надумаліся рамантаваць дарогу. Пабудавалі вадасцёкавыя калодзежы, палажылі трубы. Аднак работу гэтую зрабілі толькі каля сядзіб жыхароў вуліцы, якія ўплацілі назначаную суму грошай у гарадскую касу. Каля тых, хто не заплаціў і на незабудаваным адрэзку будаўнікі-дарожнікі нічога не зрабілі. Значыцца, людзям надалей трэба карпацца ў балоце і губіць боты ў мазістай твані. Трэба адзначыць, што хто б не ішоў вуліцай Яскулчай ад канчатковага прыпынку аўтобуса н-р 4, мусіць тэпаць па гразі, нават тыя, хто ўплаціў ужо грошы на мадэрнізацыю вуліцы. Як мне сказаў спадар Аляксандр Р. (каля яго сядзібы спынілі пабудову), ён ахвотна даплаціў бы яшчэ нейкую суму, каб толькі асушылі ўсю вуліцу. Аднак апошнія суседзі і гарадскія чыноўнікі быццам бы вады ў рот набралі. І каму яны на злосць зрабілі?

**Уладзімір Сідарук**

Гайнаўка

# Новая пошта

Нядаўна, у кастрычніку ў Гайнаўцы па вуліцы Ліповай 190 (у памяшканні новапабудаванай бальніцы) адкрылі новае паштовае аддзяленне. Працуе яно ў будныя дні ў гадзінах 9—16. Гэта трэцяя пошта ў вышэйзгаданым 25-тысячным прыпушчанскім горадзе.

Зараз выгаду маюць перш-наперш жыхары даволі далёкага ад цэнтра гарадскога квартала Падлясе.

**(яц)**

# Парнасік

### Каханы мой

Каханы мой, ужо лістапад
Скінуў лістоту на зямлю,
Птушак у цёплы край пагнаў.
Усюды шэпча дождж. Імгла.
І дзень кароткі, хуткай ноч.
Ды ў вачах маіх вясна
І мора кветак на лугах.
І пах чаромхі, кіпень бэзу,
А цёплым летам пах ажын,
Безліч грыбоў у хвайняках.
І светлы птушак спеў,
І гучны роскат грому.
Усё прайшло, так з году ў год,
У каварошце прамінання, бо
То ж мілаванне, шкадаванне
І радасць нашага быцця.

**Аўрора**

### Вітаем Цётку Мальвіну

Цешуся, што на старонкі „Нівы"
вярнулася Цётка Мальвіна;
Гэта радасная і добрая навіна
Для ўсіх, хто чытае родную газету
І ведае цэль жыцця і мэту.
Цётка перажыла цяжкасці, драмы,
І з пустою торбаю трэба было
стаяць каля крамы;
Былі грошы, а не было каўбас.
Паважаю Мальвіну і пішу
ў „Парнас".
Помню гэты час,
Калі не было ў магазінах каўбас —
І не толькі: свяціліся пустыя полкі,
А ўсюды, як на малебен,
стаяў натоўп людзей: чэргі-„коркі".
Камунізм доўга будаваўся
І пустатою ў крамах ратаваўся;
Але не ўратаваўся
І скора зруйнаваўся.
Сёння тавараў — хоць адбаўляй!
І толькі шукай работы і грошы
зарабляй.
А калі маеш вялікія прыходы,
Тады паклоніцца табе і дзядзька
родны.
Кожны з нас мае гэту шкодную
бактэрыю,
Дурную манеру, эгаізм і фанабэрыю.
Цёткі Мальвіны бактэрыя
найменш шкодная,
Таму, што яна нам усім родная:
Піша прыгожа, з багатым сюжэтам
І найважнейшае: з духоўным
у сэрцы „білетам".
Мне здаецца, што Цётка Мальвіна
не старая,
А больш маладая,
Што нат можна закахацца,
Хаця грэх да гэтага прызнавацца.
Жадаю многа шчасця і радасці
Ёй і сям'і:
Няхай свецяцца радасныя
і прыгожыя дні.

**Мікалай Панфілюк**

### Валодзі Сідаруку

Ты, Валодзя Сідарук,
Усё вельмі добра знаеш,
Калі мясны камбінат
Так шчыра расхваляеш.
Праўда, робяць усё яны
І шчыра стараюцца,
Ды сваім канкурэнтам
Вельмі не здаваюцца.
Трэба так для іх рабіць,
Ну і моцна старацца,
Каб замежным канкурэнтам
Ніяк не паддацца.
Бо замежны канкурэнты
Зробяць калатушку,
Да сябе ўсё заграбуць,
А нас пусцяць з ключкай.
Ты яшчэ так напішы,
Каго добра знаеш,
Можа ўлады на вярхушцы
І пра нас задбаюць.
Шчыра трэба ім сказаць,
Каб яны апамяталіся
Ды нашаю гаспадаркай
Лепей займаліся.

**Мікалай Лук'янюк**

# Мухі Івоны

Івона працавала настаўніцай. Як кожная дзяўчына, марыла аб вялікім каханні.

Аднойчы на дыскатэцы паявіўся **ён**. Прывабны брунет, зялёнавокі. Казка. Доўга глядзелі адно аднаму ў вочы, а пасля рушылі ў танцы.

Марк працаваў капітанам у недалёкай вайсковай часці, жыў у васнным гарадку. Пачалі сустракацца. „Хадзілі" год, рашылі пабрацца шлюбам.

Пасля вяселля жылі ў ваенным гарадку. Дом і жонка для Марка былі справай найважнейшай у свеце. Марыў мець дзяцей. Быў вельмі шчаслівы, калі жонка зацяжарыла. Але Івона не цешылася так, як муж. Не магла спаць па начах і ўсё гаварыла, што гэтая цяжарнасць высмакча ўсю яе красу і адбярэ ахвоту да жыцця.

Марк не звяртаў увагі на жончыны „мухі". Чуў ад сяброў, што цяжарныя жанчыны часта паводзяць сябе дзіўна, плятуць розныя глупствы.

Прыйшоў час родаў. Калі Івону адвезлі ў бальніцу, Марк штогадзіну званіў, пытаўся, як маюцца справы. Праз чатыры гадзіны нарадзіўся ў яго сын. Марк па тэлефону падзякаваў жонцы, пажадаў моцнага здароўя. На другі дзень прыехаў у раддом, прывёз кветкі і пачастунак.

Івона падышла да акна, узяла падарункі і сказала:

— Гэта пымылка, што я выйшла замуж. Не вярнуся дадому, а дзіцёнка пакіну ў бальніцы. І ўсё!

Муж думаў, што Івона гаворыць гэта ў шоку. Паехаў дадому, а вечарам пазваніў у бальніцу. Івона сказала тое ж. Нават параіла, што калі ён хоча мець сям'ю, няхай возьме сабе маладую дзяўчыну. Запрапанавала нават якую: хлопец ёй здрадзіў, бацькі выракліся, Бэата хоча гадаваць дачку, але не мае дзе жыць. Дзяўчына яшчэ непаўналетняя, а ейную малую будуць хіба забіраць у дзетдом.

Марк зразумеў, што жонка не жартуе. Думаў, што пры выпісцы адумаецца. Памыліўся. Івона выйшла з бальніцы і нават не глянула на яго. Мужчына рашыў зрабіць так, як яна яму параіла. Забраў дадому сына і малалетнюю Бэату з дачушкай.

Развод атрымаў без праблем. Івона выехала ў іншы горад. Марк ажаніўся з Бэатай і разам гадуюць дзяцей. А ад Івоны вестак няма, і не даведваецца, як расце яе сын.

**Аўрора**

# Бар на вакзале

Нядаўна — пасля доўгага перапынку — пачаў працаваць бар у новапабудаваных памяшканнях чыгуначнага вакзала ў Гайнаўцы. Раней яго вяла ПСС „Сполэм", але для яе гэты „бізнес" не даваў даходу.

Цяпер вакзальны міні-рэстаран у прыватных руках. Ягонымі паслугамі перш за ўсё карыстаюцца праезджыя. Тут 25 месцаў. У памяшканні прыемна і ўтульна. Вылучаецца ён ветлівай абслугай і даволі разнастайным меню. Гэта вельмі важна для ўсіх тых, хто ў дарозе, хто хоча крышку адпачыць ад стамляльнага вандравання ды перакусіць. Тут хутчэй пройдзе час чакання чарговага „свайго" поезда. Сюды варта зайсці, калі маем свабодны час, а на двары холадна, каб выпіць чай з лімонам або каву ды крыху пагрэцца. Добра, што ёсць такі бар.

**(яц)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Спалася мне цяжка. Снілася, быццам мы з сяброўкай знаходзімся на вуліцы ля нейкай хаты. Нас праследуюць незнаёмыя маладыя хлопцы. Хто яны? Бандыты? Мы іх баімося, уцякаем у хату.

І ўжо я ў хаце, але не сяброўка тут са мною, а бацька, мачыха і сястра (яны ўсе ўжо памерлі).

Бацька, нейкі сумны і бледны, сядзіць на канапе. Побач я бачу тумбачку, на ёй у вазачцы стаіць кветка.

Панура. Усё ў гэтай хаце адбываецца, быццам за імглой. Сястра купае маю ўнучку (быццам чатырохгадовую, хаця ёй значна больш) у малой ваннаўцы. Унучка сядзіць у ёй, апранутая быццам у піжамку.

Мачыха гаворыць, каб я ўзяла ад яе цацкі для ўнучкі. Яна прапануе мне вялізнага пластмасавага бегемота чорнага колеру, на якім малая магла б сядзець. Але я яго не хачу браць, бо ён чорны. Я выбрала падобную вялікую цацку, але ружовага колеру.

Вельмі непакоюся, Астроне!

**Ніна**

Ніна! Тое, што вы ўцякалі ад бандытаў, гаварыла б за нейкае небяспечнае падарожжа. Дзякуй Богу, што ўцяклі. Далей. Сумны бацька-нябожчык і кветка на тумбачцы, якая прадвяшчае радасць. Сястра купае тваю ўнучку. А мыцца ці мыць кагосьці — аднаўленне, перамена на лепшае. Во горш з мачыхай. Яна можа прадвяшчаць смутак, непрыемнасць. Тым больш, што прапанавала табе цацкі, якія сведчаць аб бессэнсоўным захапленні непатрэбнай справай, страце часу і грошай. Беручы пад увагу, што ўсе дарослыя асобы ў тваім сне былі нябожчыкамі, мо не будзе так кепска. Як бачыш, усё тут у цябе перамяшалася. Добрае і кепскае. Такія сны сняцца, калі радыкальна змяняецца атмасферны ціск.

**Астрон**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. інфекцыйны сутаргавы кашаль, 3. польская каралева, дачка Людвіка Венгерскага (1374—99), 5. пакладаны певень, 7. напр. Дунай, 9. пляскаты драўляны брусок з ручкай, якім пералі бялізну або выбівалі лён, 10. Вольга, польская партрэтыстка (1865—1940), 11. яе адзінкай дына, 12. прывабліванне звяроў падробленым голасам, 14. тытул японскага імператара, 16. мясцовасць з мінеральнымі крыніцамі і санаторыямі, 17. вузкія сталёвыя палазкі для катання па лёдзе.

**Вертыкальна:** 1. цёплая пасцельная прыналежнасць, 2. рыбны адвар, 3. ядок, 4. гліняны гладыш з вузкім горлам для малака, 6. частка сцябліны, якая злучае плод з раслінай, 8. поўная залежнасць, 9. незвычайнае здарэнне, 11. японская выспа, 13. Алесь, беларускі паэт народжаны ў 1930 г. у Бандарах, 14. паўднёвая расліна з пахучымі кветкамі, 15. сталіца Бангладэш.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 41 нумара**

**Гарызантальна:** Медычы, Баварыя, чынара, Кардучы, Крэспі, рэгата, Мантале, Мальта, цымбалы, Пічыні.

**Вертыкальна:** Абукір, тварог, Эрфурт, мячык, Дантэ, чэрап, рэнамэ, статак, Іберыя, Эбалі, Альпы, Амаці.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Аляксей Мароз, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Мір ці свет

І чым больш гаворыць цела,
Тым люблю я ўвесь свет белы,
І свет чорны, і зялёны,
А найбольш мой улюбёны:
Свет паміж двума вачыма,
Між грудзіма і пальцыма,
Між каленма і лакціма —
Небязмоўнай пантамімы;
Рэчаў, словаў, сэнсаў віхар!..

А пасля пішу верш ціха.

Вандал Арлянскі

## Думкі ў час мігрэні

* Дзіўна, што чалавек больш увагі ўдзяляе таму, што пакіне тут, на зямлі, чым да таго, што забярэ з сабою на той свет.

* Не пытай пра праўду аб сябе ў прыяцеля, бо яго патраціш. Пытай у свайго ворага, бо толькі ён скажа яе без ніякіх хістанняў.

* Нешчаслівы ў жыцці той, хто не мае ніякай ідэі, якой здзяйсненню аддаваў бы ўвесь свой час і сілы.

Пётр Байко

## Сварлівая баба

Захацела баба
Святою быці,
Пачала ў храм божы
Часценька хадзіці
Ды штораз на тацу
Стала грош кідаці;
Можа тады людзі,
Стануць шанаваці?
Вернецца дахаты,
Пра ўсё забывае
І сваіх суседзяў
Вельмі праклінае.
Дарагія людзі,
Вам трэба тое знаці,
Трэ такую бабу
Здалёк абмінаці.
Бо такія бабы
Ў сэрцы Бога не маюць,
І з самім д'яблам
Сувязь трымаюць!

Мікалай Лук'янюк




## Вынятки з характарыстык

Мае схільнасць абыгрываць у шахматы ўсіх запар, незалежна ад займаемых пасад, таму прызначаць намеснікам начальніка немэтазгодна.

*

Не п'е, не курыць, на работу не спазняецца, усе даручэнні выконвае, з жонкай жыве дружна. Мяркую, у нашым калектыве не прыжывецца.

*

Нікому і ніколі не пазычае грошай. Лепшай кандыдатуры на пасаду дырэктара банка і не знойдзеш.

*

Мае багаты вопыт сямейнага жыцця: выходзіла замуж восем разоў.

*

Не любіць стаяць за прылаўкам, таму лепш выкарыстаць загадчыцай аддзела.

*

У рабочы час — курыць, але ў меру, таму што карыстаецца толькі чужымі цыгарэтамі.

*

Вочы шэрыя, постаць прыгожая, грудзі поўныя. Карыстаецца французскімі духамі. Апранаецца ў італьянскія сукенкі. Фарбуе вусны нямецкай памадай. Носіць англійскія панчохі. Можа працаваць сакратаркай.

**Выпісаў У. Цвяткоў**

*(„Вожык")*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Бландзінка звяртаецца да суседкі:
— Што чуваць у вашага мужа?
— Я ж яшчэ незамужняя!
— То ваш муж яшчэ халасцяк?!

* * *

Бландзінка падала заяўку на працу ў метэаралагічнай станцыі.

— Якія ў вас рэферэнцыі на працу ў нас? — пытаюць яе.

— На працягу апошняга года я ўганула шэсць пяцёрак у таталётку.

* * *

Дырэктар праводзіць кваліфікацыйную размову з светлавалосай кандыдаткай на сакратарку:
— Друкуеце на машынцы?
— На жаль, не ўспела навучыцца.
— Ведаеце стэнаграфію?
— Не...
— А мо арыентуецеся ў канцылярскай працы?
— Не маю найменшага ўяўлення.
— Гмм. А я ўсё ж такі маю нейкае прадчуванне, што будзеце прыдатнай у маёй працы.

* * *

— Мамачка, страціла я цноту з ксяндзом...
— Прынамсі маеш упэўненасць, што з халасцяком.
— Не надта: мог гэта быць і камінар.

* * *

Кандуктар да бландзінкі, якая едзе ў поездзе з сабачкам:
— Ці вы заплацілі за гэтага сабачку?
— Ну што вы! Атрымала яго ў падарунку.

* * *

Бландзінка здае экзамен на атрыманне вадзіцельскіх правоў:
— Што вы зробіце, калі падчас язды ўбачыце, што вам адарвалася кола? — пытае экзаменатар.
— Павышу скорасць, каб дагнаць яго.

* * *

У справачнае бюро на вакзале прыходзіць бландзінка:
— Калі ходзяць цягнікі ў Гродна?
— Штодзень.
— У панядзелак таксама?
— Таксама.
— І ў аўторак?
— І ў аўторак.
— І ў сераду?
— У сераду таксама.
— Дык чаму ж вы мне так не гаварылі адразу!?

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я закахалася ад першага пагляду. Як толькі ўбачыла яго, дык ледзь не самлела: які прыгожы! Ну, і бываюць жа людзі!

Але дзе там мне да яго! Я, брыдкае качаня, ніколі не мела вялікіх поспехаў у хлопцаў, але патрапіла кахаць паціху, так, каб ніхто не ведаў і не бачыў. Уяўляла сабе, як мы з нейкім хлопцам кахаемся, пясціла і цалавала яго ў думках. Божа мой, каб яны пра гэта ведалі...

Не магла я ўсведаміць сабе, што такому прыгажуну, з якім мяне цяпер пазнаёміў сябра ў кавярні, і я спадабалася. Ну, вось не верыла і ўсё. Вечна была зацюканая, а сяброўкі змянялі хлопцаў, як рукавічкі. Што ён ува мне знайшоў... Я нават баялася думаць пра яго, але ж гэта была праўда: ён дамовіўся сустрэцца са мной. Запрасіў „на каву". Я і сапраўды думала, што мы будзем піць каву, хаця дамовіліся сустрэцца ў яго кватэры. Ну, і што? Ці ж адразу трэба ісці ў пасцель?! Бадай, варта было б крыху бліжэй пазнаёміцца...

Аднак на бліжэйшае знаёмства хлопец часу не пакінуў. Найлепш пазнаёмімся ў пасцелі, даволі фамільярна кінуў ён і загадаў мне распранацца. Але найперш распрануўся сам, паставіўшы на століку каля канапы нейкі кактэйль з моцных напіткаў і кансерваваныя ананасы на закуску.

Я ўся задрыжэла, калі ўбачыла яго ў поўнай красе. Сталася як бы нейкім аўтаматам і хутка сцягнула з сябе сукенку. Рабіла ўсё, што ён толькі хацеў. Я чагосьці такога не перажыла яшчэ ў сваім жыцці, хаця мне ўжо 28 гадоў. А ён жа быў на два гады маладзейшы за мяне... Калі і навучыўся...

Мушу табе, Сэрцайка, прызнацца, што пару хлопцаў і я ўжо мела ў сваіх абдымках, але каб так кахацца... Усё, што ён рабіў, было небанальнае, з поўнай дозай іншасці. Цалаваў мяне ўсюды, садзіў мяне на свой твар і цалаваў „там". А пасля мы зліліся ў адно цела. Божа, што за габарыты былі ў гэтага хлопца! Так добра не было мне яшчэ ў жыцці. А яму ўсё было мала. Пасля першага разу было ізноў і ізноў. З мілай усмешкай сказаў, што мне „дапаможа" і пачаў мастурбавацца. Хацеў, каб я глядзела на яго. Я глядзела і мне было прыемна. А пасля ізноў мы былі разам.

Здаецца, што падабалася яму ўва мне ўсё: ён абцалоўваў мне грудзі, жывот, ногі. І мне хацелася яго ўсё больш. Але я мусіла вяртацца дахаты, бацькі не дапускалі думкі, што я магла б недзе цягацца па начах.

Я не магла спаць. Яго вобраз стаяў перад маімі вачыма. Я ўяўляла сабе, які ён будзе, калі стане маім мужам, і якая я буду шчаслівая. Нават уяўляла сабе, якія прыгожыя будуць у нас дзеці.

Я не магла не падзяліцца сваёй радасцю з сяброўкай. Яна мяне расчаравала. То ты не ведала? Ён так з кожнай. Але я не паверыла, бо была ўпэўнена, што яна зайздросціць мне. Нябось, цябе не запрасіў, прыткнула я. Не бойся, не бойся, была і я ў яго, а як жа. У мяне па плячах папаўзлі мурашкі. Былі і многія іншыя нашы сяброўкі, дадала яна, а я ёй усё ж не паверыла.

Я чакала яго званка. Пасля таго, што я перажыла з гэтым хлопцам, я не магла ўявіць сабе, што ўсё між намі скончана, бо, як сказала сяброўка, ён дзяўчыну бярэ на адзін раз.

Але тэлефон сапраўды маўчаў. Я пасля працы ўвесь час сядзела дома, быццам заклятая. Але мінуў ужо месяц, а ён не даў знаць аб сабе.

А потым я ўбачыла яго з адной, і другой. З адной сядзеў у кавярні і (я чула) намаўляў яе „на хату". З другой рабіў ужо пакупкі (піццё і закуску). У мяне на сэрцы стала горка-горка, і я вырашыла ўжо яго не чакаць.

Кася

Кася! Высветлілася, што твая сяброўка гаварыла праўду. Ёсць такая катэгорыя хлопцаў, якія патрапяць культываваць „каханне" без кахання. Ты трапіла на хлопца-эратамана. Яму можа быць і крывая, і сляпая, абы мела ўсё іншае на сваім месцы. Ён патрапіць выкрасаць з яе ўсё, што хоча. А нават чым брыдчэйшая, тым лепш. Такая ўсё зробіць, не будзе ўпірацца.

Дзякуй Богу, што ты ўсё ўбачыла на свае вочы і зрабіла адпаведны вывад. Хаця было табе вельмі цяжка. Сцеражыся такіх хлопцаў! З такім жыцця не было б.

Сэрцайка